7 жніўня 2020 | № 29 (688)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Вайна ў час чумы**
Стар. 9



# «Толькі ў сэрцы трывожным пачую за краіну радзімую жах…»

**Трывожнае, трапяткое прадчуванне нечага важнага, значнага не пакідае мяне апошнія дні. Неверагодны аптымізм, і ў той жа час перасцярога. Слёзы радасці і страх невядомасці.**



Ужо зусім хутка 9 жніўня — дзень, калі (каторы раз) мы нарэшце можам пайсці іншым шляхам. Ці пойдзем? Ці пачнём нарэшце свой шлях да годнага жыцця ў цэнтры Еўропы?

Тое, што і гэтым разам, як і ўсе ранейшыя кампаніі, ніхто не будзе сумленна лічыць нашы галасы бясспрэчна даказалі некалькі дзён датэрміновага галасавання і заявы чальцоў выбарчых камісій. Ці здольны мы адстаяць свой выбар? Ці гатовыя давесці гэтай уладзе, што мы маем права выбіраць, каму кіраваць краінай?

У чарговы раз чарговае пакаленне беларусаў уздымаецца за сваё права «людзьмі звацца». І гэта натхняе. Гэта дае надзею, што, нягледзячы на ўсе гады рэпрэсій і ціску, мы засталіся годнымі людзьмі, мы не схіліліся, не далі сябе зламаць. Мы разам, мы хочам перамен, мы здабудзем сваю лепшую долю. Я ў гэта веру. І калі буду ў чарговы раз збірацца на Плошчу, як і ўсе іншыя разы, буду спадзявацца на перамогу.

Восенню ў цягніку на Вільню, калі я ехала на пахаванне Каліноўскага, на старонцы ў фэйсбуку Міраслава Лазоўскага (таго самага, які праходзіў па прыдуманай «справе патрыётаў») я ўбачыла спасылку на «Пагоню» ў выкананні «Песняроў». Уключыла гук: «Толькі ў сэрцы трывожным пачую за краіну радзімую жах, успомню Вострую браму святую…» — загучала на ўвесь вагон, у той час як беларускія памежнікі правяралі нашы пашпарты. Гэта было не проста сімвалічна, гэта быў своеасаблівы знак. Бо, сапраўды: «Старадаўняй літоўскай Пагоні — не разбіць, не спыніць, не стрымаць!»

Я ў гэта веру, гэтага прагну, за гэта гатова стаяць да канца. Бо хачу, каб мой унук ганарыўся, што нарадзіўся ў Беларусі.

**Аксана КОЛБ, галоўны рэдактар газеты «Новы Час»**

## «Нас большасць, мы разам!»

Дарагія беларусы, я вельмі нас люблю, усё ж мы вельмі моцны і светлы народ!

Наш шлях нялёгкі, але калі мы расчытаем знакі часу, паглядзім на нашы родныя сімвалы і гісторыю нашай Радзімы, то ўбачым глыбокі Божы план. А значыць, перамога абавязкова будзе! Усё, што адбываецца цяпер у нашай краіне, усё, што мы робім для яе, — недарэмна. Кожны наш учынак, вялікі і маленькі, набліжае нас да той Беларусі, пра якую мы марым. Перамога — гэта не момант, перамога — гэта працэс.

Давайце засяроджвацца на тым, што нас яднае, — на імкненні да свабоды і справядлівасці. Гэтым разам мы мусім заўпарціцца і адстаяць свае галасы. Галоўнае, не баяцца! Нас большасць, мы разам! Молімся за Беларусь. Ранейшымі мы ўжо ніколі не будзем.

Верым! Можам! Пераможам!

**Вольга СЕВЯРЫНЕЦ, жонка палітвязня Паўла Севярынца**

## «Душа дрыжыць ад прадчування таго, што наперадзе»

Магчыма, мы ўсе цяпер з'яўляемся сведкамі таго, як мяняецца гісторыя. Дакладней, мы самі яе мяняем. Непахісная на працягу чвэрці стагоддзя глыба раптам пачала калоцца.

Здаецца, грамадства прайшло праз усе стадыі — адмаўленне, гнеў, гандаль, дэпрэсія, прынятце. Былі плошчы і шматтысячныя выступы, і хапалі пачкамі, і судзілі пад капірку. Але гэтым разам нешта ўсё ж па-іншаму. Нешта лунае ў паветры, і гэта дакладна не каронавірус. Праз прынятце надышла наступная стадыя — дзеянне.

Працяг на стар. 2 »

« Працяг.
Пачатак на на стар. 1

Раней усім задаволеныя, абыякавыя і індыферэнтныя, знявераныя, запалоханыя людзі цяпер выйшлі на вуліцы. За чвэрць стагоддзя шмат што змянілася. Развіліся тэхналогіі, і пенсіянеры навіны даведваюцца ўжо не на лаўцы, а на інфармацыйных парталах ці нават у сацсетках. Выраслі тыя, хто нарадзіўся пры Лукашэнку і, здаецца, іншага жыцця не ведаў. Але іх свет такі вялікі і разнастайны, нават пры закрытых каронавірусам межах.

Што нас чакае? Я не веру ў хуткую і лёгкую перамогу. Да галоўнай прэтэндэнткі ў пераможцы па-ранейшаму шмат пытанняў, а самі гэтыя выбары незаконныя. Само яно не сыдзе, таму — рэпрэсіі, штрафы, затрыманні... Бо тым, хто збіваў, кідаў у аўтазакі і судзіў, таксама ёсць што губляць. З іншага боку — спрэчкі, хто ці што за кім стаіць. Наступствы бязглуздага кіравання. Дый пагрозу незалежнасці пакуль ніхто не адмяняў. Так што будзе весела.

Проста дакладна не будзе, і душа дрыжыць ад прадчування таго, што наперадзе. Але хочацца верыць, што мы праз гэта пройдзем годна. І будзе ў нас сапраўдная рынкавая эканоміка, і сапраўдныя выбары, і магчымасць свабодна выказваць свае меркаванні, і сусветная павага, і, страшна падумаць, бязвіз. І прэзідэнт, пасаду якога мы не будзем замяняць на старонках НЧ рознага кшталту сінонімамі. І справядлівы суд — над тымі, хто аддаваў і выконваў злачынныя загады. Бо ад думкі, што ўсё можа быць па-іншаму, робіцца вельмі задушліва.

**Анастасія РУБАНАВА,
рэдактарка сайта novychas.by**

### «Краіна ўжо не будзе ранейшай»

Чым бы ні скончылася гэтая электаральная эпапея, яе галоўны вынік можна фармуляваць цяпер.

Рубікон пяройдзены. Чвэрці стагоддзя ўздоўж адной і той жа генеральнай лініі беларусам хапіла, каб саспець, захацець, запатрабаваць пераменаў.

Так, патрабавалі і раней — у 2006-м, 2010-м. Але такое яскравае, упэўненае адчуванне сваёй большасці — яно дакладна ўпершыню. І што важна — гэта ўжо незваротна. Прынцыпова новае статус-кво захаваецца, нават калі 9 жніўня нічога гістарычнага не адбудзецца і дзейная ўлада зноў элегантна пераможа. Бо расчараванне, узрошчанае доўгімі гадамі, — непазбыўнае. Бо алергія ў крайняй форме — яна нічым не лечыцца. Усё, памідоры завялі канчаткова. Ці, як казаў паэт, «кто сгорел, того не подожжешь».

І ўсе набеглыя падрабязнасці тут ужо другасныя. Нецікава, колькі народных грошай скраў-адмыў тлусты буржуй-банкір. Нецікава, ці куляўся стваральнік ПВТ з дзвюма фемінамі ў гатэлі пад відэазапіс. Нецікава, колькі тысяч «зялёных» знойдзена за канапай імклівага блогера. Гэта нейкі цуд, але жалезныя законы чорнага піяру сёння ў Беларусі не працуюць. А за кожным нейтралізаваным Гары Потэрам нечакана з'явілася адданая Герміёна, якую ўспрымаюць усур'ёз дзясяткі тысяч суайчыннікаў. І якая, не маючы палітычных амбіцый, надае передвыбарчай гонцы нейкую неверагодную эстэтыку.

Страшна сказаць: нават гісторыя з арыштаванымі «вагнераўцамі» аніяк не ўражвае электарат. Хаця, здавалася б, у ёй намёк на самае дарагое — захаванне суверэнітэту пад ціскам імперскай Расіі. Пра тое ж бухцяць і «класічная» апазіцыя, бачачы ў цяперашніх падзеях славутую «руку Масквы». Але «народзец» і тут не верыць — і адстрэльваецца ад састарэлай фобіі дзеклівымі «мемасікамі» ў сацсетках.

Зрэшты, не трэба цешыцца ілюзіямі. Каб сябе абараніць, дзейная ўлада мае дастаткова знешніх рэсурсаў і ўнутраных рэзерваў. 10 жніўня беларусы наўрад ці прачнуцца ў новай рэальнасці — ужо таму, што гэта справа не аднаго дня і нават тыдня. Але ж Рубікон пяройдзены, а перці супраць законаў гісторыі яшчэ нікому не ўдавалася. І хто б ні прыняў інаўгурацыю напрыканцы лета, пасля сёлетняй выбарчай кампаніі краіна ўжо не будзе ранейшай.

**Сяргей КАЙКО,
спартовы рэдактар НЧ**

### «Будзьма рэалістамі — нам не будзе лёгка»

Чаго б хацелася пажадаць чытачам напярэдадні выбараў? Мужнасці, стойкасці, трываласці, аптымізму і ўзаемадапамогі. Таму што які б ні быў вынік выбараў, нам усё гэта спатрэбіцца.

Амаль на 100 працэнтаў у выніку выбараў пераможа Святлана Ціханоўская. І амаль на 100 працэнтаў Лукашэнку «намалююць» новую кадэнцыю. Таму мужнасць, трываласць і аптымізм усім спатрэбяцца, каб абараняць свой голас і свой выбар. Зразумела, будуць рэпрэсіі. Але ў любым выпадку мы павінны выйсці з іх больш моцнымі і кансалідаванымі, чым цяпер.

Калі Лукашэнка здолее захаваць сваю пасаду, нас чакаюць вельмі складаныя часы. Відавочна нелегітымны кіраўнік пры адсутнасці падтрымкі, найперш фінансавай — як з Захаду (бо такім чынам праведзены выбары), так і з Расіі (таму што з ёй ён сур'ёзна пасварыўся падчас выбараў) — доўга не ўтрымаецца. Наўрад ці ён адбудзе свой поўны тэрмін, і нам спатрэбяцца сілы на новае змаганне.

А калі здарыцца цуд, і прэзідэнтам стане Святлана Ціханоўская... Вы ўяўляеце, якія рэформы спатрэбяцца краіне, якая жыве ў стагнацыі апошнія дзесяцігоддзі? Гэта будзе не проста «шокавая», а «звышшокавая» тэрапія. Першы ўрад, які пачне праводзіць рэформы, стане ўрадам палітычных самазабойцаў. Але без рэформ — ніяк, і таму...

У любым выпадку — будзьма рэалістамі, — лёгкага выйсця няма. Але галоўнае — каб мы вытрымалі, зрабіліся мацнейшымі і лепшымі за нас сённяшніх. Так што: мужнасці, трываласці, аптымізму і ўзаемадапамогі.

**Сяргей ПУЛЬША, намеснік галоўнага рэдактара НЧ**

### «Важная наяўнасць у людзей матывацыі»

Для зменаў у краіне мае значэнне не галасаванне, не штабы-кандыдаты і нават не сыход Лукашэнкі з той ці іншай прычыны (хаця ўсе гэтыя чыннікі адыгрываюць пэўную ролю). Важная наяўнасць у людзей матывацыі і здольнасці самаарганізоўвацца, каб замяніць аўтарытарную дзяржаву на дэмакратычную. Без чалавечых ахвяр, без сілавых канфліктаў. Гэта складаны шлях. Але калі яго не прайсці, застанёмся ў аўтарытарызме — з Лукашэнкам ці без яго.

**Глеб РУБАНАЎ, ІТ-спецыяліст**

### «Народ — больш не статак безгалосага быдла»

Аляксандр Лукашэнка разумее, што больш не мае такой падтрымкі сярод беларусаў, як гэта было раней, таму ўключыў на поўную магутнасць увесь свой традыцыйны арсенал — ад пагроз і прамых запалохванняў сваіх апанентаў да паклёпу ды прапагандысцкіх залпаў.

Яшчэ год таму падавалася, што нічога цікавага падчас прэзідэнцкай выбарчай кампаніі не здарыцца, але выхад на палітычную арэну нечаканых персанажаў — Віктара Бабарыкі, Валерыя Цапкалы і Сяргея Ціханоўскага — стаўся нечаканасцю як для самога правадыра, так і для шмат каго ў дэмакратычным лагеры. Рэжым зрабіў усё, каб ніхто з іх не стаў сапернікам Лукашэнкі — Бабарыка і Ціханоўскі аказаліся за кратамі, Цапкала змушана пакінуў краіну. Сцяг Ціханоўскага падхапіла яго жонка Святлана, якая за некалькі тыдняў ператварылася ў сімвал надзеі для неабыякавых суайчыннікаў.

Тое, што на мітынгі ў падтрымку маладой прывабнай жанчыны выйшлі дзясяткі тысяч людзей, стала непрыемным сюрпрызам для ўладаў. Як і тое, што за яе выступаюць і вядомыя артысты ды спартоўцы, тэлевядучыя, якіх раней цяжка было западозрыць у апазіцыйнасці. І гэта вельмі нервуе Лукашэнку і яго атачэнне.

Калі быць рэалістам, даводзіцца прызнаць, што Лукашэнка застанецца на сваёй пасадзе, а Цэнтрвыбаркам на чале з вернай яму Лідзіяй Ярмошынай намалюе тыя лічбы, якія будуць лашчыць зрок вярхоўнага шэфа. Пытанне, як усё гэта ўспрыме выбаршчык. Ці praglыне хлусню, як гэта было шматкроць, ці паспрабуе давесці да ўлады, што народ — больш не статак безгалосага быдла, а свядомыя людзі, якія маюць гонар і годнасць.

З іншага боку, як далёка можа пайсці ўлада, каб захаваць сябе на звыклых пазіцыях? Знерваванасць нязменнага правадыра выклікае занепакоенасць, у эмацыйным парыве ён можа наламаць такіх дроваў, што проста жах. Лукашэнка ўжо калісьці заяўляў, што будзе абараняць сваю ўладу нават з аўтаматам у руках. Ён проста не ўяўляе сябе па-за ўладаю, якая стала для яго сэнсам жыцця ды існавання. Хочацца спадзявацца, што да гэтага справа не дойдзе.

І ўсё ж такі, хоць крыху, але застаецца і надзея на цуд: магчыма, мы прачнёмся 10-га жніўня ў новай Беларусі з новым прэзідэнтам. Кожны з нас верыць у казку, верыць у шчасце, верыць у дабрыню. Ну, не можа ж так быць, каб дабро ўвесь час прайгравала, няхай і ў адной асобнай краіне! Таму хочацца пажадаць нам усім, каб гэтая казка стала рэальнасцю, у якую мы шчыра верым.

**Генадзь КЕСНЕР,
аглядальнік НЧ**

# Фатаграфаваць можна, прымушаць — не

**Каардынатар кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» Уладзімір Лабковіч адказвае на пытанні, якія часцей за ўсё задаюць выбаршчыкі.**

***Ці можна прымусіць выбаршчыка галасаваць датэрмінова?***

Выбаршчыка наогул нельга прымусіць галасаваць ні датэрмінова, ні ў асноўны дзень выбараў. Гэта яго права, але не абавязак. У Выбарчым кодэксе пазначана: датэрміновае галасаванне (арт. 53) прадугледжана для выбаршчыкаў, у якіх няма магчымасці ў дзень выбараў прыйсці на ўчастак. Гэта значыць, выбаршчык сам вырашае: можа ён галасаваць ці не.

***Ці можна сфатаграфаваць бюлетэнь, нават калі адкрыты шторкі ў кабіне для галасавання?***

У арт. 9 Выбарчага кодэкса Беларусі гаворыцца: «галасаванне на выбарах і рэферэндуме з'яўляецца тайным: кантроль за волевыяўленнем выбаршчыкаў падчас галасавання забараняецца».

Таямніца галасавання — гэта тое, што належыць самому выбаршчыку. І ён сам вырашае: фатаграфаваць бюлетэнь ці не. Ён можа зняць яго, каб, напрыклад, паказаць блізкім і сябрам.

Але ёсць нюанс — бюлетэнь нельга размяшчаць у сацыяльных сетках або СМІ да 20.00 дня галасавання (9 жніўня). Інакш гэта будзе расцэнена як агітацыя. Любое ўмяшанне ў дзеянні выбаршчыка, які знаходзіцца ў кабінцы, — умяшанне ў таямніцу галасавання.

Такім чынам наўпроставай забароны ў заканадаўстве на здымку бюлетэня няма. А пасля 20.00 наогул ніхто не мае права забараніць чалавеку распавядаць, як ён прагаласаваў.

***Ці можна не заходзіць у кабінку, а прагаласаваць перад камісіяй?***

Вось што на гэты конт сказана ў арт. 52 Выбарчага кодэкса РБ: «Бюлетэнь запаўняецца галасуючым у кабіне або пакоі для тайнага галасавання. Пры запаўненні бюлетэня забараняецца прысутнасць каго б то ні было, акрамя таго, хто галасуе». Выходзіць, галасаваць на вачах у камісіі нельга.

***Што адказваць чальцам камісіі, калі забараняюць фатаграфаваць?***

Сябрам камісіі трэба сказаць, што яны парушаюць таямніцу галасавання і не маюць права ўмешвацца, гэта грубае парушэнне заканадаўства. А таксама папрасіць іх назваць дакладную прававую норму і пазначыць артыкул Выбарчага кодэкса, дзе прапісана забарона на здымку.

***Калі прыйсці на выбарчы ўчастак з белым бранзалетам, яго могуць палічыць агітацыяй?***

Белы бранзалет немагчыма аднесці да агітацыі, гэта прадмет аксесуара. Нават калі хтосьці палічыць інакш, то праблемы могуць узнікнуць (чаго не павінна наогул быць) у самога выбаршчыка, але не кандыдата.

Што такое агітацыя? Гэта матэрыялы альбо словы, якія падахвочваюць іншых выбаршчыкаў прагаласаваць «за» альбо «супраць» таго ці іншага кандыдата. Наяўнасць белага бранзалета або стужачкі не падахвочвае іншых людзей да галасавання за пэўнага кандыдата.

***Ці могуць сябры выбарчай камісіі папрасіць зняць бранзалет?***

У гэтым выпадку, як і з сітуацыяй здымкі бюлетэня, трэба прасіць спаслацца на канкрэтны заканадаўчы акт, які забараняе насіць белы бранзалет.

***Ці можна скласці бюлетэнь у некалькі разоў перш, чым кідаць у скрыню для галасавання?***

Няма выразнага патрабавання, як неабходна скласці бюлетэнь перад тым, як кінуць у выбарчую скрыню. Але ёсць спіс падстаў, па якіх яго могуць прызнаць несапраўдным, і ў дадзеным выпадку ўсё роўна: ці згорнуты бюлетэнь у трубачку ці зробяць з яго самалёцік — ён усё роўна будзе сапраўдным.

***Які бюлетэнь могуць прызнаць несапраўдным?***

У арт. 55 Выбарчага кодэкса пералічана, у якіх выпадках бюлетэнь не залічаць:

- калі на адваротным баку адсутнічаюць подпісы чальцоў участковай камісіі;
- калі пастаўлены знак больш чым у адным квадраце ці не пастаўлены ні ў адным з іх.

Самы важны крытэрый пры прызнанні бюлетэня несапраўдным — калі немагчыма вызначыць волевыяўленне. Напрыклад, бюлетэнь пусты альбо стаіць адзнака ў двух квадрацiках. Яшчэ адна прычына — парваны бюлетэнь альбо неўстаноўленага ўзору.

Па іншых выбарных кампаніях магу сказаць, што на практыцы сапраўднымі прызнавалі бюлетэні, калі на іх было нешта напісана. Галоўнае патрабаванне — бюлетэнь павінен быць легітымным, а волевыяўленне выбаршчыка зразумелым.

**Паводле tut.by**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# З марамі пра мора

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Надышоў жнівень, а большасць нашых грамадзян так і не здолела выехаць на традыцыйны адпачынак да мора. Нават банкі скардзяцца — ніхто не скупляе валюту, каб адпачыць за межамі Сінявокай. «Краіна, што перамагла каронавірус», збольшага застаецца еўрапейскім «чумным баракам».**



Мара пра мора.
Аўтар: А.К. Немаляева

Беларусаў не пускаюць амаль нікуды. Хіба што нядаўна Украіна абвясціла нашым грамадзянам «зялёную зону». Але можна толькі ўявіць, якія чэргі ўзнікнуць на мяжы з-за жадаючых хаця б пару дзён пакоўзацца ў моры на пляжах Адэсы.

Старшыня праўлення рэспубліканскага саюза турыстычнай індустрыі Філіп Гулы адзначае, што па-за Украінай нас прымаюць некаторыя асноўныя месцы: Албанія, што карыстаецца папулярнасцю, Чарнагорыя, якая таксама сёлета «ў трэндзе», звыклыя Турцыя і Егіпет. Аднак праблема ў тым, што не ўсе адкрыліся да працы і не заўсёды турысты атрымліваюць тое, што жадаюць і хочуць.

А вось паўнавартасна адправіцца ў Еўропу па-ранейшаму немагчыма, для ўсіх, хто планаваў Італію, Балгарыю, Грэцыю, у гэтым годзе — не лёс.

Падавалася б, вось яна, магчымасць для развіцця ўнутранага турызму, які ў нас па-ранейшаму мае вялікі патэнцыял. Толькі нешта гэты патэнцыял у нас хоць і вялікі, але чамусьці не ўвасабляецца ў канкрэтныя прапановы. Па меркаванні адмыслоўцы, у беларусаў з'явіўся попыт і цікавасць да тых месцаў ва ўласнай краіне, дзе за 300–500 долараў можна паўнавартасна адпачыць у санаторыі па прынцыпе «all inclusive».

Але такіх месцаў — днём з агнём не знайсці. Канешне, ёсць пэўныя санаторыі, але ў той жа час нават пуцёўка ў дзіцячы летнік каштуе тыя ж самыя 300–500 долараў. Што ўжо казаць пра дарослых. «Попыт высокі, і гэты попыт выкрывае ўсе праблемы, якія існуюць унутры беларускай турыстычнай інфраструктуры, у першую чаргу недахопы сэрвісу і праблемы цэнаўтварэння. Калі наша індустрыя зможа зрабіць правільныя высновы, то да наступнага года ёсць верагоднасць таго, што цэны стануць больш даступныя для беларусаў, будзе магчымасць прайсці павышэнне кваліфікацыі, даць іншы сэрвіс і змяніць саму прадуктовую лінейку», — кажа Гулы.

Спецыяліст так каментуе завышаныя кошты ў беларускіх аграсядзібах у гэтым сезоне: «Усе хочуць зарабіць пабольш, гэта праблема нашай лакальнай культуры».

Дык у чым жа справа? Чаму нашыя аграсядзібы, пры такіх шалёных коштах, не развіваюцца і не скарыстоўваюць той самы патэнцыял унутранага турызму?

Усё, насамрэч, проста. Бізнесоўцы не ведаюць, што будзе далей, таму «жывуць адным днём». Яны не ведаюць, якія ўмовы іх працы будуць заўтра ці паслязаўтра, і імкнуцца як мага больш зарабіць сёння. Адсюль і незвычайна высокія кошты, што часцяком не адпавядаюць сэрвісу.

У мінулым годзе Цэнтр эканамічных даследаванняў BEROC і прадстаўніцтва Міжнароднай фінансавай карпарацыі (IFC) у Рэспубліцы Беларусь праводзілі даследаванне «Глабальны маніторынг прадпрымальніцтва» (GEM). Паколькі даследаванне было сусветным, вынікі з'явіліся толькі цяпер.

Згодна з атрыманымі лічбамі, Беларусь уваходзіць у тройку самых песімістычна настроеных краін у ацэнцы ўзроўню спрыяльных умоў для пачатку бізнесу. Самыя нізкія ўзроўні аптымізму — у Японіі (10,6%) і Індыі (16,9%). Беларусь па гэтым узроўні нароўні з Расіяй — недзе 29%.

Пры гэтым каля 70% прадпрымальнікаў і непрадпрымальнікаў лічаць, што прадпрымальніцтва — удалы кар'ерны выбар. Але толькі 28,5% непрадпрымальнікаў ацэньваюць станоўча ўмовы для адкрыцця бізнесу. Прадпрымальнікі ж, якія ведаюць, пра што гаворка, больш аптымістычныя: каля 39% з іх мяркуюць, што ў краіне створаны спрыяльныя ўмовы для адкрыцця бізнесу.

Насамрэч, адкрыць бізнес (зарэгістраваць ІП альбо фірму) у Сінявокай дастаткова проста. Праблемы ўзнікаюць з самім бізнесам і з яго закрыццём. Закрыццё, у адрозненне ад адкрыцця, можа цягнуцца гадамі.

Да найбольш распаўсюджаных прычынаў выхаду з бізнесу адносяцца «нерэнтабельнасць» (37,1%), «сямейныя або асабістыя абставіны» (18,4%) і «бюракратыя» (15,1%). Пры гэтым пра «неспрыяльныя ўмовы вядзення бізнесу» заявілі 19,5% рэспандэнтаў-беларусаў.

Дык адкуль жа пры такіх настроях узяцца развіццю патэнцыйнай «залатой жылы» — аграэкатурызму? Таму попыт значна перавышае прапанову, таму і кошты ў нас такія. Бо першае, чаму вучаць на курсе эканомікі, — гэта графіку «попыт-прапанова». Чым больш попыт і меншая прапанова, тым вышэйшы кошт тавару ці паслугі.

Увогуле, не дзіва, што пры гэтых складанасцях сёлета ў Мінску, дый па ўсёй Беларусі — поўны швах з рэгістрацыяй новых бізнесаў. Па звестках Белстату, у першым паўгоддзі 2020 года ў Беларусі зарэгістравана 5078 юрыдычных асоб — на 7,3% менш, чым у студзені — чэрвені мінулага года, і 16 437 індывідуальных прадпрымальнікаў (на 16,2% менш). У той жа час ліквідаваных 4982 юрыдычныя асобы, спынілі сваю дзейнасць 13 317 індывідуальных прадпрымальнікаў.

Самы значны спад рэгістрацыйнай актыўнасці па юрыдычных асобах назіраецца ў Мінску. Тут за 6 месяцаў зарэгістравана на 13,7% юрасобаў менш, чым год таму. Найбольшы спад рэгістрацыі індывідуальных прадпрымальнікаў — у Брэсцкай вобласці, мінус 20,5%.

Аднак спад закрануў не ўсіх. Калі прыватных кампаній за студзень-чэрвень зарэгістравана 4188 — на 10,9% менш, чым у студзені-чэрвені 2019 года, а замежных кампаній 582 — на 20,4% менш, то юрыдычных асоб дзяржаўнай формы ўласнасці зарэгістравана ў 6,7 раза больш, чым годам раней. Усяго дзяржарганізацый у першым паўгоддзі зарэгістравана 308 — больш, чым за любы год з поўных папярэдніх 6 гадоў.

То-бок, што атрымліваецца? У той час, як усе краіны навокал падтрымліваюць бізнес у час пандэміі, беларуская дзяржава скарысталася выпадкам, каб у крызіс прыбраць канкурэнтаў. Бо, як вядома, на антыкрызісную падтрымку ў нас могуць разлічваць толькі дзяржаўныя арганізацыі. І ў той час, як прыватны бізнес зазнае страты, бізнес пад дзяржаўным дахам — квітнее.

Зразумела, можна назваць гэта формай нядобрасумленнай канкурэнцыі. Дык адкуль тады ўзяцца прымальнаму па коштах і ўмовах адпачынку ўнутры краіны?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Святлана Ціханоўская



**Штаб Святланы Ціханоўскай звярнуўся да тых, хто пералічваў грошы ў выбарчы фонд кандыдаткі, — іх аказалася занадта багата. І таму трэба вярнуць нескарыстаныя грошы.**

Для выбарчага фонду кандыдата ў прэзідэнты РБ існуе абмежаванне — 9000 базавых велічынь, гэта 243 тысячы рублёў. Менавіта такую суму кандыдат можа выдаткаваць з рахунку. Але на рахунак Святланы Ціханоўскай паступіла больш: паводле банкаўскай выпіскі — 280 тысяч рублёў. Збор сродкаў быў прыпынены, бо трэба будзе вяртаць тое, што застанецца.

З гэтай сумы лічацца ананімнымі каля 80 тысяч беларускіх рублёў. Гэта значыць, што не хапае даных адпраўніка. Таму штаб Ціханоўскай хоча аднавіць інфармацыю пра тых, хто пералічваў грошы: на кампанію яшчэ магчыма выдаткаваць 43 тысячы рублёў, астатнія, як зазначаюць у штабе, «бяздарна сыдуць у бюджэт».

«Калі вы пералічылі грошы ў выбарчы фонд Святланы Ціханоўскай і пакуль не высветлілі іх лёс, звярніцеся да кантактнай асобы штаба па гэтым пытанні: Марына, +375 29 831 9520. Напішыце ёй паведамленне ў любы месенджар са сваімі прозвішчам і імем, яна звяжацца з вамі і паведаміць, ці прайшоў плацёж», — заклікаюць у штабе.

## Валерый Цапкала



**Экс-прэтэндэнт на прэзідэнта Беларусі пераехаў з Масквы ў Кіеў і звярнуўся з адкрытым лістом да лідараў больш чым 30 краін свету. Расіі ў гэтым спісе няма.**

Улісце Цапкала звяртае ўвагу, што ў Беларусі ўжо 26 гадоў кіруе адзін чалавек, што стварыў «аўтарытарны рэжым, у якім не выконваюцца асноўныя каштоўнасці дэмакратычнага грамадства: змяняльнасць улады, свабода слова і волевыяўлення, асноўныя свабоды чалавека». Цапкала адзначыў: цяпер улады Беларусі «актыўна перашкаджаюць» правядзенню сумленных і свабодных выбараў, а таксама аказваюць сілавы ціск «на ўсіх, хто хоча справядлівасці і празрыстасці выбарчага працэсу».

Ён звярнуўся да лідараў краін з просьбай «падтрымаць правядзенне свабодных і сумленных прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі і звярнуць увагу грамадскасці на антынародную палітыку, якую праводзіць беларускі рэжым».

«Таксама ад імя ўсяго беларускага народа прашу аказаць садзейнічанне ў арганізацыі міжнароднага назірання за выбарамі і падлікам галасоў, забеспячэнні празрыстасці гэтага працэсу для грамадзян Беларусі, якія знаходзяцца на тэрыторыі вашай свабоднай краіны. Нашы народы месцамі аб'ядноўвае культурна-гістарычная спадчына і цесныя роднасныя сувязі. Мы аднолькава разумеем ідэі дэмакратыі і свабоды», — гаворыцца ў лісце.

## Надзея Астапчук



**Чэмпіёнка свету і Еўропы па лёгкай атлетыцы ў чарговым выпуску YouTube-канала «Жыццё — маліна», расказала, што ёй даўно не падабаецца кіраўнік дзяржавы.**

На пытанне, калі Астапчук усвядоміла, што Лукашэнка ёй не падабаецца, яна адказала: «З дзяцінства ўсё. Мае бацькі яго не падтрымлівалі. Я яго асабліва не падтрымлівала. Мне абсалютна было па барабану на выбары, калі мне 16 гадоў было. А калі ўжо свядома? Калі ён зрабіў сабе безлімiт гэты (абмежаванне тэрмінаў прэзідэнцтва было адменена на «рэферэндуме» 2004 года). Пасля гэтага мне стала зусім сумна».

У 2010 годзе ёй патэлефанавалі з Адміністрацыі прэзідэнта і прапанавалі знясца ў ролiку ў падтрымку Лукашэнкі: «Я сказала, што планую галасаваць за іншага кандыдата. Будзе непрыгожа, калі я аддам голас аднаму, а ў роліку падтрымаю іншага. Мне было б няёмка перад сабою. Я адмовілася».

Асаблівых наступстваў ад гэтага ўчынку Астапчук не адчула: «Перасталі запрашаць на розныя мерапрыемствы, але я з гэтай нагоды не моцна перажывала». На выбарах гэтага года яна мае намер галасаваць за Ціханоўскую.

# Прамова на развітанне?



Фота www.nohchicho.com

Сяргей ПУЛЬША

**Пасланне Лукашэнкі народу і парламенту нездарма было перанесенае на 4 жніўня. І справа не ў тым, што ён ператварыў сваё пасланне ў своеасаблівы «Народны сход». Зрэшты, гэтым разам дэлегатаў на сход не абіралі, а проста звезлі. Менавіта 4 жніўня ў дзяржаўнай прэсе была нарэшце апублікаваная перадвыбарчая праграма Лукашэнкі.**

## Прысабечыць чужое

Як мы і меркавалі, больш чым напалову пасланне Лукашэнкі ўтрымлівала ў сабе тэзы яго перадвыбарчай праграмы, і гэта сапраўды была яе прэзентацыя. Аднак на самым пачатку кіраўнік дзяржавы і кандыдат у прэзідэнты прайшоўся па міжнароднай абстаноўцы і сітуацыі з пандэміяй Covid-19.

Міжнародная абстаноўка зразумелая і выказаная яшчэ ў легендарным фільме «Масква слязам не верыць»: «У свеце неспакойна. Тэрарысты зноў захапілі самалёт». Увесь свет, як водзіцца, у хваляваннях ды забурэннях, і толькі Беларусь засталася, па словах Лукашэнкі, «адзіным спакойным звяном у цэнтры Еўразіі». А таму нас баяцца згубіць і Расія, і Захад, і Кітай.

А вось з Covid-19 — праблема. Па словах Лукашэнкі, пераадоленне эпідэміі — гэта цалкам заслуга дзяржавы. Маўляў, менавіта дзяржава забяспечыла бальніцы неабходным абсталяваннем і матэрыяламі, апаратыўна ўвяла захады сацыяльнага дыстанцыявання, падоўжыла канікулы ў школах, і менавіта дзякуючы дзяржаве ўзніклі новыя формы дыстанцыйнага навучання. А дэпутаты парламента «выратавалі асноўную масу людзей сталага веку».

Вельмі цікавая заява з боку таго, хто называў гэтую эпідэмію не інакш, як «каранапсіхозам», патрабаваў лячыць яе лазняй, гарэлкай і трактарам, патрабаваў, каб дзеці вярталіся ў школы, а ў якасці «захадаў сацыяльнага дыстанцыявання» правёў парад 9 траўня ў Мінску, свята 3 ліпеня і «Славянскі базар» у Віцебску.

Ён, безумоўна, згадаў валанцёрства, бясплатныя абеды для медыкаў, спонсарскую дапамогу. Але ані словам не закрануў тое, што гэтую «спонсарскую дапамогу» ўлады забаранялі прымаць, што медыкаў папярэджвалі: бясплатныя абеды ад «Макдональдса» будуць прыроўненыя да хабару, што ініцыятыва ByCovid-19, якая сабрала для патрэбаў медыкаў больш за 350 тысяч долараў, ледзьве не падпольна перадавала сродкі абароны і медычнае абсталяванне ў бальніцы.

Проста таму, што тады ў Лукашэнкі меркаванне было іншае. Тады ён думаў, што каронавіруса ў нас няма. А цяпер, бачце: гэта ўсё — заслуга ўлады.

Калі пасланне пачынаецца з прысабечвання чужых заслуг, чаго ад яго можна чакаць?

## Што нам абяцаецца?

Аднак вернемся да перадвыбарчай праграмы. Зноў, як і прагназавалася, яна складаецца з невыкананых абяцанняў мінулых гадоў, якія і сёння, падаецца, ніхто не збіраецца выконваць.

Самае цікавае і актуальнае абяцанне, канешне ж, — за пяць гадоў павысіць сярэдні заробак удвая.

Безумоўна, пытанне ў тым, што такое «сярэдні» заробак, бо калі чыноўнік есць мяса, а працоўны — капусту, то разам яны ядуць галубцы. Яшчэ адно пытанне: тэза пра «падвоіць заробак» — з перадвыбарчай праграмы Лукашэнкі 2006 года. Праўда, там абяцалася павысіць не толькі заробак, але і пенсіі, стыпендыі і дапамогі. Прычым, абяцалася зрабіць гэта «не менш чым удвая».

Сёлета пра пенсіі было сказана, што яны павінны складаць не менш за 40% ад заробку. Вельмі сціпла ў параўнанні з мінулым.

У новай пяцігодцы Лукашэнка абяцае асаблівую ўвагу надаць рэгіёнам і вёскам. Там будуць рэалізаваныя «перспектыўныя праекты», за кошт якіх людзі будуць «жыць не горш, чым у абласных цэнтрах і сталіцы». У планах — па адным буйным праекце кшталту «Гродна-Азота» ў абласных цэнтрах і па два не такіх буйных, але сярэдніх, у райцэнтрах. Гэта, а таксама раздача зямлі тым, хто хоча займецца свой участак, па меркаванні Лукашэнкі, падыме прэстыж працы і жыцця людзей на вёсцы.

Тут таксама пытанне: а навошта гэта ўсё рабіць? Бо зрабіць «жыццё ў сельскай мясцовасці не менш камфортным, чым у гарадах», абяцалася ў тым жа 2006 годзе. «Менавіта на гэта нацэлена комплексная праграма адраджэння і развіцця вёскі, да рэалізацыі якой мы ўжо прыступілі», — заяўлялася тады. А ў 2010-м было сказана, што ўлады «выратавалі вёску і забяспечылі харчовую бяспеку».

Навошта нам рабіць тое, што ўжо было зроблена (калі верыць абяцанням) з 2006 па 2010 гады? Ці за гэты час нехта нашы дасягненні разбурыў? Цікава, хто?

Асаблівая балючая тэма — адукацыя. Лукашэнка паабяцаў «асноўную ўвагу надаць новай якасці адукацыі і яе адаптацыі да патрэбаў жыцця грамадства». На экзаменах будуць і тэсты, і сумоўе.

Ужо колькі разоў казалася — адчапіцеся ад адукацыі! Гэтая сфера не здольная пераварыць усе тыя рэформы, якія абрынуліся і працягваюць абрынацца на яе ці не штогод! Ці тое задачы па матэматыцы вельмі складаныя, ці тое чарвякам занадта шмат увагі аддаецца ў біялогіі, ці Коля не ў стане прачнацца рана, каб паспець у школу, ці віцэ-прэм'ер не разумее 10-бальную сістэму ацэнак... Толькі-толькі (і тое не да канца) разабраліся з тэставаннем, і тут — на табе!

Дарэчы, у мінулых праграмах Лукашэнкі адукацыі надавалася няшмат увагі. Але было, напрыклад, «удасканаленне нацыянальнай сістэмы адукацыі; шырокае ўкараненне ў сістэму адукацыі сучасных электронных сродкаў навучання», што абяцалася ў 2010-м і павінна было быць скончанае да 2015-га.

Як былі ўкаранёныя «сучасныя электронныя сродкі навучання», мы на сваёй скуры адчулі ўвесну, калі з-за эпідэміі большасць вучняў не наведвала школы. Настаўнікі проста «на каленцы» вымушаныя былі вынаходзіць сродкі камунікацыі з вучнямі, складаць задачы і навучальныя праграмы ў інтэрнэце. Прычым — самі, без аніякай падтрымкі з боку дзяржавы!

Цяпер я заклікаў бы ўсіх настаўнікаў, што сядзяць у выбарчых камісіях, — узгадайце той жудасны час. І ўзгадайце, што вам было абяцана «ўкараніць электронныя сродкі навучання» яшчэ за 10 гадоў да эпідэміі!

**Ніводзін раз пасланне Лукашэнкі не перарвалася апладысментамі — нягледзячы на тое, што ён некалькі разоў рабіў паўзы, у якіх апладысменты маглі ўзнікнуць. Скончыўшы прамову, ён вельмі хутка сышоў — практычна збег — з трыбуны, і прысутныя паўтары хвіліны хлопалі пустому месцу**

Адзінае, што ў перадвыбарчай праграме новае — гэта абяцанне абвясціць чарговы рэферэндум аб зменах у Канстытуцыю, на якім «беларусы падчас усенароднага абмеркавання вызначаць свае правы, свабоды і абавязкі, а таксама паўнамоцтвы органаў дзяржаўнай улады».

Па-першае, гэта так сабе навіна. Пра неабходнасць рэферэндуму вядомыя юрысты казалі даўно — з тых часоў, як Лукашэнка скасаваў Вышэйшы гаспадарчы суд, згадка пра які засталася ў Канстытуцыі. Ідэя рэферэндуму ў інфармацыйнай прасторы то ўзнікае, то знікае ад 2014 года.

Па-другое, ніхто не мае ілюзіяў, што гэты рэферэндум будзе праведзены так жа, як і сённяшнія «выбары». Казаць пра тое, што беларусы на ім самі «вызначаць свае правы, свабоды і абавязкі», проста не выпадае. Бо для гэтага рэферэндум не патрэбны. Давайце проста цяпер правядзем сумленныя выбары, з канкурэнтным складам выбарчых камісій, з адкрытым падлікам галасоў, з захаваннем правоў назіральнікаў, з захаваннем таямніцы галасавання, са свабодай слова, свабодай выказвання свайго меркавання і свабодай СМІ, без запалохвання і рэпрэсій, з роўнымі правамі ўсіх кандыдатаў на выбарах.

Але ад такой перспектывы «моцнай уладзе» млосна. Дык не вешайце локшыну на вушы пра нейкі «рэферэндум», на якім «беларусы вызначаць»!

Па інтэрнэце ходзіць добрая ідэя: за невыкананне перадвыбарчых абяцанняў трэба ўводзіць крымінальную адказнасць па артыкуле «махлярства». Гледзячы на беларускія рэаліі, міжволі задумаешся над слушнасцю гэтай прапановы.

## Хто такія «яны»?

У пасланні было дзіўнае тое, што Лукашэнка паспрабаваў адначасова выглядаць і лібералам, і «моцнаю рукою». З аднаго боку, на нас, па яго словах, «яны» адпрацоўваюць новыя тэхналогіі гібрыднай вайны, каляровых рэвалюцый і іншых жудасцяў аж да замбавання праз айфоны (тут захацелася надзець на галаву шапачку з фольгі). З іншага боку, моладзь, што вырасла ў незалежнай Беларусі, — тыя, хто стаяць у «ланцугах салідарнасці», і тыя, хто служыць у АМАПе, — гэта ўсё «наша моладзь», і дзяржава нясе адказнасць за ўсіх.

«Яны» напісалі нейкія «незразумелыя тэксты» «тром няшчасным дзяўчонкам», якія, на самай справе, не разумеюць, што робяць. Прынамсі, выбары прызначае парламент, і таму патрабаваць новых выбараў пасля 9 жніўня — глупства.

Насамрэч, так, выбары сапраўды прызначае парламент. Але Святлана Ціханоўская кажа пра новыя прэзідэнцкія выбары, а прапанову пра гэтыя выбары ўносіць прэзідэнт. Так што маніпуляцыя ў дадзеным выпадку не працуе.

«Яны» спрабуюць арганізаваць «бойню ў цэнтры Мінска». «Яны» перакінулі на поўдзень краіны яшчэ адну дыверсійную групу, і цяпер мы павінны адрывацца ад уборкі незвычайнага ўраджаю і лавіць дыверсантаў па лясах. «Не падкідайце сюды ядзернай зброі!» — зусім дзіўна заклікаў Лукашэнка.

Пры гэтым мы так і не даведаліся, хто такія «яны» і чаго яны хочуць. Не, у агульных рысах відаць: «дэстабілізацыя абстаноўкі ў Рэспубліцы Беларусь». Але чаго канкрэтна?

## Гэта было развітанне?

«Я прыму любое рашэнне народа, але дайце выратаваць краіну»... «Я не святы, але вы мяне ведаеце, вы ведаеце, чаго ад мяне чакаць. Калі заўтра прыйдзе невядомы — якую палітыку ён будзе праводзіць? Ці ўтрымаеце вы яго (ад антынароднай палітыкі, было зразумела з кантэксту. — **Аўт.**)? Сёння ўжо ўтрымаеце — і без мяне...». «Нават без мяне Беларусь здолее сябе абараніць», — гэтыя сентэнцыі з вуснаў Лукашэнкі напрыканцы паслання былі падобныя на развітанне. Маўляў, я стаміўся, я гатовы сысці — толькі не зруйнуйце маю працу.

Падчас трансляцыі Лукашэнку не так багата паказвалі буйным планам. Было відавочна, што ён істотна здаў у плане калі не здароўя, дык самаадчування. Ён увесь час абціраўся хусткай — у гэтыя моманты апаратары наўпростаразу эфіру імкнуліся адвесці ад яго камеру, што, наадварот, прыцягвала ўвагу да яго рухаў. Падчас імправізацый ён зрываўся ці тое на сіпенне, ці тое на хрыпенне. А на трыбуне ў яго нават шклянкі вады не было.

Ніводзін раз пасланне Лукашэнкі не перарвалася апладысментамі — нягледзячы на тое, што ён некалькі разоў рабіў паўзы, у якіх апладысменты маглі ўзнікнуць.

Скончыўшы сваю прамову, ён вельмі хутка сышоў — практычна збег — з трыбуны, і прысутныя паўтары хвіліны хлопалі пустому месцу. Так праводзяць у апошні шлях акцёраў.

Ён з намі развітваўся?

# «Рэвалюцыі пачынаюцца не з плошчы, а з генералаў, якія даюць злачынныя загады»

Іна СТУДЗІНСКАЯ,
«Радыё Свабода»

**Акцёр Анатоль Кот раіць усім міліцыянтам, байцам АМАПу, вайскоўцам уважліва перачытаць прысягу. На яго думку, генералу, які аддае ганебныя загады хапаць людзей, ёсць што губляць — грошы, уладу.**



Анатоль Кот фільм Неба ў агні (2010). Фота www.kino-teatr.ru

Беларускі і расійскі акцёр Анатоль Кот з 2004 года жыве ў Маскве, але застаецца грамадзянінам Беларусі — кажа, што свядома не мяняў беларускае грамадзянства.

У 1990-х гадоў удзельнічаў у спектаклях Тэатра лялек, Мінскага моладзевага тэатра, Тэатра-студыі кінаакцёра, «Вольнай сцэны». З 2004 года — у расійскім тэатры Армэна Джыгарханяна. Кажа, з’ехаў з Беларусі, бо забаранілі здымацца ў кіно.

«Тады яшчэ не ведаў, што за выказванне сваіх думак пераследуюць. Тэлефануе рэжысёр: “Мне не даюць дазволу цябе здымаць. Забараняюць. З Мінкульту патэлефанавалі дырэктару, ён мне загадаў не браць цябе на ролю”. Я пытаюся: “А папера ёсць?” — “Толя, якая паперка? Ты ж усё разумееш”.

Вось існуе хадавая думка, што чалавек, які працуе ў дзяржаўнай структуры, не можа выказваць сваю думку. Той жа акцёр працуе ў тэатры. І што — ён не мае права выказваць свае думкі? Яму чыноўнік, дырэктар плаціць са сваёй кішэні? Не, з падаткаў. Гэта грошы народа. Чыноўнік з падаткаў размяркоўвае заробак і яшчэ дыктуе, што мне можна казаць, а што — не? Вось і з’ехаў», — эмацыйна разважае Анатоль.

У 1998 годзе акцёр з’ехаў у Германію. Некалькі гадоў працаваў там. Вярнуўся. Сыграў ролю князя Уладзіміра Друцкага ў «Анастасіі Слуцкай». На пачатку 2000-х гадоў у Мінску здымаўся ў расійскім серыяле «Каменская». Расійскі калега Станіслаў Дужнікаў пазнаёміў Анатоля з Армэнам Джыгарханянам, які запрасіў маладога беларускага акцёра ў свой тэатр.

Анатоль Кот шмат здымаецца ў кіно. У 2012 годзе зняўся ў ролі вайсковага генерала ў фільме «Жыве Беларусь!» польскага рэжысёра Кшыштафа Лукашэвіча, часткова заснаваным на вайсковых дзённіках журналіста Франка Вячоркі, які стаў суаўтарам сцэнару.

Акцёр уважліва сочыць за тым, што адбываецца ў Беларусі. Кажа, што «накіпела», і сам выказаў жаданне выступіць са зваротам да людзей у пагонах — міліцыянтаў, вайскоўцаў, байцоў АМАПу.

«Я пачытаў меркаванні маіх беларускіх калег-акцёраў пра тое, што тут адбываецца, у прыватнасці, Алега Гарбуза. І мне вельмі хочацца самому выказацца. Найперш, сказаць велічэзны дзякуй усім, хто верыць у лепшую будучыню Беларусі, хто выходзіць на вуліцы. Я па-іншаму ніяк не магу падтрымаць іх, бо жыву ў іншай краіне.

Некалі вядомы расійскі акцёр Яўген Еўсцігнееў сказаў: “Артыстаў, якія кінуліся ў палітыку, увогуле зразумець не магу. Наша прафесія дазваляе са сцэны ці экрана сказаць нашмат больш і, галоўнае, больш пранікнёна, чым з трыбун”.

Я, у прынцыпе, прытрымліваюся такой жа думкі. Але вельмі баюся, каб хлопцы ў пагонах не акрапілі сябе крывёй суграмадзян, каб потым не было позна», — так тлумачыць сваё памкненне выказацца Анатоль Кот.

Акцёр кажа, што спрабаваў прачытаць тлумачэнні генерала Івана Кубракова, начальніка мінскай міліцыі, які апраўдваў дзеянні сваіх падначаленых, калі тыя затрымалі толькі за адзін дзень 14 ліпеня больш за 200 мірных грамадзян. Прызнаецца, што не здолеў дачытаць да канца.

«Гэты генерал-маёр міліцыі нёс такую лухту: нібыта людзі, якія выстраіліся ў ланцужок на ходніках і пляскалі ў ладкі, тым самым перашкаджалі руху і правакавалі аўтамабілістаў падаваць сігналы! І гэта кажа чалавек у пагонах! І яму не сорамна такое несці?

У мяне два браты — кадравыя вайскоўцы. Я ведаю, што такое форма, пагоны, афіцэрскія гонар і годнасць не па чутках, не з пагалосак. Хочацца звярнуцца да маладых хлопцаў. Перачытайце ўважліва прысягу!»

Анатоль удакладняе, што ў вайскоўцаў і міліцыянтаў прысягі крыху розняцца. У вайскоўцаў самы першы радок пасля імя і прозвішча — «Урачыста клянуся быць адданым свайму народу, свята выконваць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь».

А ў прысязе супрацоўнікаў МУС пасля слоў «свята выконваць Канстытуцыю і законы» першы радок — «не шкадуючы свайго жыцця, абараняць правы, свабоды і законныя інтарэсы грамадзян, грамадства, дзяржавы».

«У абедзвюх прысягах ключавыя словы — народ, грамадзяне. І міліцыя, і вайскоўцы абавязаныя абараняць правы народа, грамадзян!

А па-вашаму абараніць правы народа — гэта скруціць моладзь, якая пляскае ў ладкі, ці закінуць раварыста разам з роварам у аўтазак? Альбо хапаць людзей з чаргі ў ЦВК? Майго кандыдата знялі, я пайшоў падаць скаргу, а мяне яшчэ збілі? За мае падаткі мяне яшчэ і нявечаць? Сілавыя структуры ж “кормяцца” з бюджэту. Як, дарэчы, і сфера культуры, акцёры.

У мяне адабралі магчымасць прагаласаваць, магчымасць паскардзіцца. І аказваецца, што я яшчэ парушыў закон! А потым мяне яшчэ аштрафуюць ці пасадзяць на 15 сутак. У мяне ў галаве не ўкладаецца: за што?» — кажа Анатоль Кот.

**«Хочацца звярнуцца да гэтых хлопцаў: нельга быць ланцужнымі сабакамі на прывязі. Каму вы служыце? Чалавеку, у якога рукі па локаць у крыві? Будзьце хаця б людзьмі, якія думаюць. Падумайце, што вы робіце, уключыце мозг, а не сілу!»**

Таму акцёр звяртаецца да ўсіх людзей у пагонах, якіх, «мяркуючы па апошніх заявах дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі Андрэя Раўкова, будуць выкарыстоўваць “для прадухілення масавых беспарадкаў”».

«Хочацца звярнуцца да гэтых хлопцаў: нельга быць ланцужнымі сабакамі на прывязі. Каму вы служыце? Чалавеку, у якога рукі па локаць у крыві? Будзьце хаця б людзьмі, якія думаюць. Падумайце, што вы робіце, уключыце мозг, а не сілу! Насупраць вас можа быць сусед, сын сябра, проста мінак. Ён думае інакш. І за гэта яму трэба прабіваць галаву і ламаць нос? Калі выхоплівае людзей з натоўпу чалавек у цывільным адзенні, ён хто — ланцужны сабака?

Ну нават калі і супраціўляліся пацаны. А як інакш? Яны ў двары выраслі. Канечне, супраціўляюцца, калі іх хапаюць.

Я ведаю, як вас дрэсіруюць, натасквацюць, як разганяць натоўп. Але перачытайце, калі ласка, прысягу. Служы́це народу», — заклікае міліцыянтаў Анатоль Кот.

Акцёр прызнаецца, што ў тэатры і кіно сыграў шмат падлюкаў і нягоднікаў. І заўсёды, уваходзячы ў ролю, шукае апраўдання, чаму чалавек так паступае.

«Адна справа — граць ролю нягодніка, а іншая — быць падлюкам па жыцці. І цяпер, разважаючы пра жорсткасць міліцыі, АМАПу, шукаю апраўдання — чаму яны так паступаюць?

Тут два варыянты: альбо грошы, альбо святая вера. Але пра веру тут гаворка не ідзе — усе ж бачаць, як Лукашэнка чапляецца ссінелымі пальцамі за ўладу ўжо больш за 20 гадоў. Значыць, грошы.

Лукашэнку ёсць што губляць. Генерал-маёру таксама ёсць што губляць — грошы, уладу. А вы што будзеце рабіць? Вам жыць тут. Галаву ўключыце, падумайце крыху галавой.

Вы ж столькі гарэлкі не вып’еце, каб заглушыць рэшткі сумлення ці боль у сэрцы, а яно будзе балець! Як вы з гэтым будзеце жыць — вы чалавека знявечылі ці, не дай Бог, забілі», — кажа Анатоль Кот.

«Вось прыходзіць АМАПавец дадому са службы, дзіця пытаецца: “Тата, а што ты рабіў на працы, дзе служыў свайму народу?” А бацька адказвае: “Сынок, дзясятак затрымаў, аднаму нос зламаў, другому нагу. А яшчэ чалавек на ровары праязджаў, я яго схапіў і кінуў у аўтазак”. Дзіця запытаецца: “А за што?” Бацька адкажа: “Ён стаяў на вуліцы і пляскаў у ладкі”. “А што, я не магу пляскаць у ладкі?” — здзівіцца сын. “Можаш, сынок, але цябе могуць знявечыць за гэта”, — адкажа бацька».

«Рэвалюцыі пачынаюцца не з плошчы, а з такіх генералаў, якія даюць злачынныя загады, служаць крываваму монстру, але ж потым самі не могуць адмыцца. Вось з чаго рэвалюцыі пачынаюцца — з такіх загадаў, якія генералы даюць пацанам. А пацанам з гэтым жыць. А гэты малады хлопец, які выконвае злачынны загад хапаць людзей, нічога больш не ўмее. Ён вырас, адслужыў у войску і пайшоў у міліцыю. Ён умее толькі разганяць мірных людзей і закідваць у аўтазак разумнага, адукаванага айцішніка, які наладзіў яму кампутар. Але нельга развязваць грамадзянскую вайну», — перакананы Анатоль Кот.

Пра беларусаў кажуць, што яны вельмі памяркоўныя, талерантныя і цярплівыя, 26 гадоў жывуць з адным прэзідэнтам. Што ім рабіць далей? Анатоль Кот кажа, што не мае права заклікаць народ, штурхаць кагосьці на рашучыя ўчынкі. Ён выступае толькі за мірныя перамены, кажа, што толькі законна, мірна трэба дамагацца змены ўлады.

«Моладзь, якая нарадзілася ў 1990-х гадах, вырасла, стала на ногі і хоча іншага жыцця. Вырасла пакаленне, якое мае права голасу. Але яго гэтага права пазбаўляюць. Вырасла новае пакаленне свабодных, нармальных, адукаваных людзей. Я не кажу, што мая мама ненармальная, але раней яна свята верыла, што “кіраўнік дзяржавы чагосьці не ведае, ён не разумее, яму не так дакладаюць, а ён хоча як лепш”.

Лукашэнку ёсць што губляць. Правільна сказаў мой калега Алег Гарбуз: “Адпусціце яго, няхай адлятае”. Таму зноў звяртаюся да адданых яму сілавікоў: можна быць сумленным афіцэрам, салдатам, адданым радзіме і народу. Нельга быць сабакам і развязваць грамадзянскую вайну.

Вы што будзеце рабіць? Як вы будзеце з гэтым жыць? Галаву ўключыце, падумайце крыху галавой».

**Друкуецца са скарачэннямі**

# «Выхад з тупіку для Беларусі мусіць шукаць і прапаноўваць думаючая меншасць»

Ігар ЗЛАТАГУРСКІ

**Без грамадзянскай супольнасці не бывае трывалых суверэнітэту і незалежнасці. На момант з'яўлення на палітычнай мапе свету Рэспублікі Беларусь большасць беларусаў не была гатовая да самастойнага жыцця і не даспела да дзяржаўнасці. І калі масе насельніцтва не надта была патрэбная незалежнасць, не дзіва, што яна дагэтуль не стварыла і грамадзянскай супольнасці.**



Фота Дзіяны Серадзюк

### Просты чалавек

Свядомасці простага чалавека ўласціва выбіраць для сябе ролю ахвяры, што назірае збоку. Пазіцыя большасці шараговых беларусаў амаль да апошняга часу спраўджвала гэтую тэзу найяскравейшым чынам.

Бадай, пра гэта самым і якраз меркаваным чынам некалі спытаў мяне адзін вязень на турэмным падворку: *«Кто дал тебе право так говорить о простом мужике? А ты сам кто такой?! Знаешь ли ты, как трудно ему живётся и сколько приходится работать, чтобы вырастить детей?!»*

У адрозненне ад парламенцкіх дыскусій, у спрэчках вязні хутчэй не шукаюць ісціну, а даводзяць уласную «стромасць». І каб не марнаваць час, на высунутыя пытанні я адказаў сустрэчным: «Так, простаму мужыку жывецца цяжка. І каб крыху палегчала, каб выгадаваць дзяцей, простыя мужыкі ўжо дваццаць гадоў як паставілі на чале гэткага самага простага мужыка. Выгадавалі і дзяцей. Вывучылі. І сказалі ім: "Едзь, дачушка, у Польшчу, валі, сынок, у Расію — у Беларусі вам чакаць няма чаго". Дык як склалася так, што ў краіне, пабудаванай простымі мужыкамі, для іх дзяцей няма годнай будучыні?..»

Адказам было маўчанне, а іншага я і не чакаў. Простага тлумачэння, што ж адбываецца з Беларуссю, не існуе. Пошукі варта пачынаць, прыглядзеўшыся да менталітэту большасці.

Нават беларусы-месцічы ў асноўным — выхадцы з вёскі ў першым-другім, добра, калі ў трэцім пакаленні. Апошняя праз сваякоў таксама даволі знітаваныя з вёскай. Ва ўсіх нас больш ці менш «вясковая» душа. Не варта як пагарджаць ёй, гэтак жа і ідэалізаваць яе, але трэба ведаць, што з сябе ўяўляе.

Польская даследніца сучаснай беларускай вёскі Ганна Эльнінг напісала: «Беларускія калгаснікі на мяжы XX і XXI стагоддзяў уяўляюць з сябе — таксама, як і іх дзяды-прадзеды, — просты і працавіты тутэйшы хрысціянскі народ». У гэтым няма благога, але далей чытаем, што «сярод першасных каштоўнасцяў, якія вызначаюць як былых мужыкоў, так і сённяшніх калгаснікаў і посткалгаснікаў, няма ні нацыі, ні айчыны, ні дзяржавы, ні мовы. На першым плане знаходзяцца праца, зямля і Бог».

Усё, што мы ведаем аб праблемах з суверэнітэтам краіны і нацыянальнымі каштоўнасцямі, аб дзяржаўнай сацыяльнай рыторыцы апошніх 25 гадоў толькі спраўджвае зробленыя ёй высновы.

Сучасная Беларусь не можа быць іншай, калі беларусы ў масе паўстаюць простымі людзьмі з «фаталістычнай гісторыяй пра долю пакрыўджанага народа», якая, паводле Ганны Эльнінг, «факусуецца вакол жыцця і выжывання». Гэта «негераічная гісторыя людзей, якія не змагаліся са зброяй у руках у імя агульных для ўсёй супольнасці каштоўнасцей, як у геpaічных нацыянальных міфах, а пакутавалі, як нявінныя ахвяры ў сцэнарыях, рэалізаваных знешнімі сіламі і ідэалогіямі».

Таму і пільнуецца звычайны беларус што ў вёсцы, што ў горадзе немудрагелістых правілаў: «я ведаю, што ад мяне нічога не залежыць» і «я — чалавек маленькі, ні на што не ўплываю», «палітыкай я не цікаўлюся» і «тамака "наверсе" разумнейшыя, і лепш ведаюць, што і як рабіць». А на ўсе заклікі пераглядзець гэтыя напісаны кодэкс гучыць: «мы такія таму, што нашае жыццё такое». І нехутка (а магчыма, і ніколі) просты чалавек не прыме думкі, што яго жыццё «гэткае» таму, што «гэткі» ён сам.

Але кожны чалавек незалежна ад свайго стану заўжды можа нешта зрабіць. Знаходжанне за кратамі не замінае мне напісаць гэты тэкст, прачытанне якога нейкай колькасцю людзей, магчыма, дапаможа зірнуць на некаторыя рэчы крыху інакш. Натуральна, я не змяніў гэтым свет, але і не пакінуў яго ранейшым.

**Павазе не толькі да ўлады, але і да іншага чалавека заўжды папярэднічае павага да самога сябе. Самапавагі бракуе шмат якім беларусам, а ў тых, хто вызначае сябе простым чалавекам, з ёй увогуле бядотнае становішча**

Не брак інфармацыі і хаванне патрэбных ведаў уладамі замінаюць «прачнуцца» шырокім масам, а нежаданне саміх простых людзей шукаць іх і разбірацца ў працэсах, якімі жыве грамадства.

Таму шараговы беларус, жывучы ў час, нездарма названы стагоддзем інфармацыі, так і не ведае, што палітыка, якой ён не цікавіцца (і ганарыцца гэтым!), — адзіны інструмент залагоджвання супярэчнасцяў паміж рознымі сацыяльнымі групамі ў грамадстве. Паміж тымі ж працадаўцамі і найманымі працаўнікамі, кім звычайна людзі і ёсць.

### Народная ўлада

Дарэчы, пытанню стасункаў простых беларусаў з сучаснай беларускай уладай належыць асобнае месца: звыклае супрацьстаянне ўлады народу не акрэслівае ўсёй разнастайнасці іх узаемадачыненняў.

Мне згадалася, як напярэдадні першых выбараў у далёкім 1994 годзе агітатар раздаваў у электрычцы ўлёткі са словамі: «Товарищи! Проголосуем за него — он такой же простой мужик, как и мы все!» Мае выпадковыя спадарожнікі хапалі ўлёткі з імпэтам, а пасля блізу двух дзясяткаў гадоў можна было назіраць расквечаныя ўсмешкамі і надзеяй твары людзей, што цягнуліся да *«простого мужика»* пры сустрэчах з ім. І вось сёння гэтыя самыя людзі на яго ж ускладаюць усю віну за свае нястачы і нягоды...

Вінавацяць, забыўшыся, што сучасная беларуская ўлада з усімі сваімі хібамі і заганамі папраўдзе ёсць уладай народнай, як бы каму — і «уставшим и бедным» беларусам у тым ліку — не хацелася б з гэтым згаджацца. Народнай, калі пад народам разумець простых людзей. А гэта большасць беларусаў.

Сучасная беларуская ўлада — гэта хлопцы з нашай і суседняй вёскі і дзяўчыны з суседняга дома і нашай школы! За невялікім выключэннем мы ўсе жылі побач у адных і тых жа дамах, вучыліся разам у адных школах і ўніверсітэтах.

Не падлягае сумневу, што «вертыкаль» рознага кшталту ад долу і да гары выйшла пераважна з агульнай масы беларускага люду і досыць працяглы час адпавядала чаканням большасці. Але сёння простыя людзі і насамрэч бачаць, што ўлада ад іх аддалілася.

Улада — адно з найцяжэйшых выпрабаванняў, вытрымаць якое напоўніцу не дадзена, бадай, ніводнаму чалавеку. Хто хіба аднаго разу з-за кепскага настрою не прыкрыкнуў на дзіця за якую правіну, у той жа час, калі магчыма было абмежавацца размовай, ці не адштурхнуў нагой надакучлівага хатняга сабаку (ката), што замінаў пільнае справе? А падобнае гэтаксама — злоўжыванне ўладай больш моцнага над слабейшым і залежным. Што тады казаць пра ўладу чалавека над людзьмі, якія не ўвасабляюцца для яго ў канкрэтных асобах, а ўяўляюцца безаблічнай масай? Асабліва, калі ўлада абмяжоўваецца збольшага адно ўяўленнямі самога носьбіта ўлады аб яе межах.

Амаль да апошняга часу беларуская ўлада дакладна адпавядала ўяўленню шараговых беларусаў аб тым, якой яна мусіць быць: просты беларус уладу аніколі не паважаў — ён наўпрост баяўся любога, хто яе мае. Нават калі гэта ўсяго калгасны стайнік, які можа не даць каня, не зважаючы на цыдулку ад старшыні, пакуль не атрымае «належную пасадзе» пляшку гарэлкі. Я на ўласныя вочы бачыў, як мае сваякі мусілі дагаджаць «начальніку над коньмі», каб гарод не застаўся неўзараны. А гэткі самы, як і яны, просты чалавек літаральна наталяўся хвілінна і рэдкай магчымасцю здзейсніць акт уладарання і адчуць, што маюцца «ніжэйшыя» ад яго...

«Выбіўшыся ў людзі», то-бок атрымаўшы якую пасаду, чалавек з «простай свядомасцю» часцяком трапляе ў складанае псіхалагічнае становішча: апроч натуральнага для шмат каго з беларусаў комплексу «вясковасці/мястэчковасці» перад «гарадскімі» калегамі, з нетраў падсвядомасці не хоча знікаць генетычная памяць аб «простым паходжанні». І тады жыццё атручваецца думкай, нібыта «ўсе лічаць, што я выйшаў "у князі з гразі", і смяюцца». Замест спакойнага гонару за сябе ўзнікае пыхлівасць і ўзмацняецца жаданне, «каб баяліся». На жаль, для «простага» беларуса ва ўладзе «мяне баяцца» роўнае «мяне паважаюць».

### Дзіця соцыюму

Павазе не толькі да ўлады, але і да іншага чалавека заўжды папярэднічае павага да самога сябе. Самапавагі бракуе шмат якім беларусам, а ў тых, хто вызначае сябе простым чалавекам, з ёй увогуле бядотнае становішча. Звычайнаму беларусу ўтульна адчуваць сябе «маленькім» чалавекам — якая ў такога адказнасць, з малога хто спытае! Яму не звыкаць свядома прыніжаць сябе, каб адшукаць абарону альбо дапамогу ў больш моцнага.

«Малому» чалавеку ўласціва адчуваць залежнасць ад больш моцнага. І таму ў свядомасці простага беларуса, як трапна заўважыла Г. Эльнінг, маецца куточак і для комплексу «вечнай ахвяры». Усмактанае з малаком маці вызначэнне сябе «пакрыўджаным народам» міжволі праяўляецца і на дзяржаўным узроўні, і ў стасунках з іншымі краінамі. Бог «абдзяліў» нас карыснымі выкапнямі. Суседзі з Усходу мусяць прадаць іх нам як найтанней таму, што мы «гнілі з імі ў адных акопах». «Гнілі», а не «ваявалі»! А Захад мусіць дапамагаць нам грашыма таму, што мы «найбольш з усіх народаў пацярпелі ў развязанай не намі Другой сусветнай вайне...»

«Просты» чалавек — адвечнае дзіця соцыуму. Ён не хоча сталець і ўскладаць адказнасць за сябе на свае плечы. І таму вялізная частка беларускага насельніцтва заўжды будзе імкнуцца пазбавіцца ад невыноснага для яго цяжару самастойнасці. Нават коштам страты не толькі незалежнасці краіны, але і дзяржаўнасці.

Простыя людзі заўжды прагнулі і прагнуць справядлівасці. Але з гісторыі чалавецтва бачна, што кожная іх спроба пабудовы справядлівага свету абарочвалася крахам.

Адно з першых сведчанняў маецца яшчэ ў тэкстах Старажытнага Егіпту. Невядомы аўтар пісаў, што «людзі не маглі больш трываць здзеку і галечы і ўзяліся за зброю. Кроў багатых сплыла падлогамі палацаў і храмаў», але сэрца відавочцы таксама «абліўся крывёю, а вочы засцілі слёзы», бо «ўчорашнія рабы апрануліся ў каштоўныя адзенні і, парабіўшыся гаспадарамі, пачалі прыгнятаць іншых, як некалі прыгняталі і іх...»

«Передавы атрад сусветнага пралетарыяту» — партыя бальшавікоў — стварыла не толькі «першую ў свеце краіну працоўных і сялян», а найперш дзяржаву наменклатуры, якая выйшла з гэтых сацыяльных групаў. І ў гэтай дзяржаве сацыялізм абярнуўся нябачаным дагэтуль тэрорам, падчас якога адны працоўныя і сяляне забівалі пераважна гэткіх самых простых людзей: 90% ахвяр сталінскіх рэпрэсій — гэта рабочыя і вяскоўцы.

Толькі большасць простых беларусаў, двойчы на год шануючы Дзядоў, палічылі за лепшае забыцца на скалечаных лагерамі лёсы сваякоў і на імёны забітых бацькоў. І не перадалі памяць пра іх унукам, якія і сёння настальгуюць па пабудаваным на касцях іхніх продкаў Савецкім Саюзе.

Надышоў час і простым людзям у Беларусі чарговым, але не апошнім разам зняверыцца ў сваіх чаканнях — яшчэ адзін Чараўнік Смарагдавага горада аказаўся ўсяго толькі звычайным чалавекам. Не варта лічыць яго ашуканцам, пры ўсёй празе да неабмежаванай улады — ухвалены, дарэчы, большасцю шараговых беларусаў, — ён насамрэч хацеў палепшыць жыццё простага люду. Інакш бы адной чы на маю крытычную заўвагу наконт тупіковасці абранага шляху звычайныя цёткі і дзядзькі, з якімі я ехаў аўтобусам, не кінуліся б раз'юшана бараніць свайго абранніка: «Ды мы пры ім хаця пажылі!!!» І гэта праўда, з добры дзясятак гадоў, а то і больш, шмат шараговых людзей (і не толькі яны) адчувалі паляпшэнне дабрабыту. Не памылюся, напісаўшы, што за праміналы час вялікая плойма беларусаў сышла ў іншы свет з цвёрдым перакананнем слушнасці зробленага выбару.

## Думаць уласным розумам

Тое, што сёння адбываецца з Беларуссю, — натуральнае завяршэнне ўсіх сацыялістычных эксперыментаў без выключэння. Усе яны грунтуюцца на «справядлівым пераразмеркаванні» агульнага набытку паміж усімі чальцамі грамадства. Але кожная сацыяльная група мае аб справядлівасці свае, часам супрацьлеглыя, уяўленні.

Адзіны слушны шлях развіцця для Беларусі — даць магчымасць напоўніцу рэалізавацца тым суграмадзянам, якія маюць большыя разумовыя здольнасці. Інакш яны з'едуць ды пакінуць астатніх на заняпад і дэградацыю. Апошняя ўжо грукаецца ў нашы дзверы.

Мала хто не чуў аб абмеркаваннях у заходнім свеце ўвядзення гарантаванага даходу для ўсіх грамадзян. Фінляндыя першы крок у гэтым кірунку ўжо ажыццявіла. Справа не ў лішніх грошах — прыляцела першая «ластаўка» з'яўлення лішніх для грамадства людзей.

Цягам гісторыі нашая цывілізацыя грунтавалася на фізічнай працы простых людзей. Але сёння мы ўсутыч падышлі да пункту, пасля якога фізічная праца па стварэнні прадукту не мае ранейшай вагі. Ужо цяпер значна больш важная закладзеная ў прадукт ідэя, інавацыйнасць тэхналогіі і абсталявання. Штучны інтэлект і рабатызацыя вытворчасці гэты трэнд даводзяць да лагічнага завяршэння. Просты працоўны чалавек робіцца для соцыуму ўсё больш непатрэбным. Яго час сышоў назаўжды. І новыя працоўныя месцы, якія нібыта створыць новая аўтаматызаваная эканоміка, працэс непатрэбнасці людзей не спыніць — апаратары дронаў і не заўважаць, як хутка дроны «навучацца» абыходзіцца без іх.

Не толькі «простым» людзям варта задумацца пра гэта: ужо сёння пішуць, што паніжаецца патрэба ў прагramістах — праграмы «навучыліся» пісаць праграмы. Пакуль што нескладаныя, але працэс пайшоў. І ён закране ўсіх.

І дзеля будучыні нашчадкаў нам, беларусам, ужо трэба пачынаць думаць уласным розумам, а не жыць, як набяжыць. Працяг падобнай практыкі азначае адно — як вызначылі раней іншыя народы і дзяржавы, як нам, беларусам, жыць і куды ісці, — а мы з большай ці меншай пакорай урэшце прымалі вызначаны не намі шлях, — гэтак і будуць вызначаць далей.

І не можа быць інакш, калі большасць беларусаў — «простыя» людзі, а беларуская «эліта» свядомасна не надта ад іх адышла. Першыя, занурыўшыся ў штодзённае выжыванне, спадзяюцца і надалей захаваць сваё «простае» існаванне, бо іншымі быць не жадаюць і не могуць, а другія імкнуцца наўпрост утрымаць уладу.

## Хаўрус «супраць»

Пры гэтых варунках патрабаваць нешта змяніць маглі б асобы, якія разумеюць неабходнасць стварэння ў Беларусі грамадзянскай супольнасці. Яе дагэтуль у нас не было не толькі праз дзеянні ўлады, але і таму, што простыя беларусы не разумелі памкненняў людзей, якія намагаліся супольнасць скласці. Паводле ўяўленняў бальшыні, трэба альбо падпарадкоўвацца ўладзе, альбо ў яе інкарпаравацца. А «гэтыя» маюць здольнасці і адукацыю (то-бок, не «простыя» людзі), але ва ўладу асабліва не лезуць, а толькі дэманструюць да яе крытычнасць, — што для простага чалавека роўнае апазіцыйнасці, — ды нясуць лухту пра нейкія «каштоўнасці». Звычайны чалавек адчувае, што «яны» здольныя да самадастатковага і самастойнага (без загадаў зверху) жыцця, і таму яму ментальна чужыя. Адсюль і яго абыякавасць да карных захадаў супраць гэтых людзей цягам 25 гадоў.




І пакуль што няма сведчанняў, што «простая» большасць і «думаючая» меншасць між собку паразумеюцца. Тое, што назіраецца ў Беларусі апошнім часам, — усяго толькі выпадковы хаўрус «супраць» пэўнай асобы, а не агульны рух «за» нешта супольнае. Як зазначыў кіраўнік праекту Belarus Security Blog Андрэй Паротнікаў, звычайным грамадзянам, як і раней, *«не интересны многостраничные программы политических и экономических реформ..., они хотят быстро получить простые ответы на сложные вопросы. Но не додуматься до них самим, а именно получить от кого-то»*.

## Клятае беларускае кола

Дык якіх тады пераменаў хочуць стомленыя і незадаволеныя ўладай простыя беларусы? Адказвае эканамічны аглядальнік Дзяніс Лаўнікевіч, што агучыў пытанне *«Васи из третьего подъезда моего дома на Тракторном заводе в Минске. Реальный персонаж, работает на электротехническом заводе им.Козлова. Он знает, каково положение дел на заводе, знает, что завод проще убить, чем прокормить, но Вася не хочет уходить в неизвестность. Вася хочет модернизацию завода, работать на современном станке и получать достойную зарплату, а не открывать маленький бизнес по ремонту автомобильной электрики. Ответьте Васе на его вопрос — и Вася за вас проголосует»*.

Падобным чынам пытанні ставяць сотні тысяч працоўных астатніх гадамі стратных прадпрыемстваў. Простыя беларусы ўсё выдатна ведаюць і разумеюць, але, калі кажуць, што іх «усё дастала» і яны «хочуць перамен», насамрэч істотна нічога мяняць не жадаюць.

Два гады таму, калі ўжо чакаліся абедзве выбарчыя кампаніі, але яшчэ не вызначылася, якая адбудзецца першай, тэлевізійныя навіны аб другім за тры месяцы падвышэнні пенсій змусілі засумаваць: «"пернікі" электарату — датэрміновае галасаванне — загадзя вызначаны вынік — чарговая дэвальвацыя» выклікалі трывалае адчуванне бегу па замкнёным коле. Тужлівыя думкі перарвала адначасовае атрыманне двух замоўных лістоў ад знаёмай, адпраўленых адным днём: шматдзетная маці парывалася між працай на прадпрыемстве, шчыраваннем на прысядзібным гародчыку і хатнім клопатам і забылася ўкласці ў капэрту інфармацыю, якую я прасіў адшукаць. Праз што і мусіла бегчы на пошту другі раз — *«А этот лист лежал у меня в сумочке! Теперь понимаешь, какая я всем этим задуренная?!»*

Нечакана так сталася шкада простую і шчырую працаўніцу, іншых невядомых мне людзей, якія гэтаксама высільваюцца на некалькіх працах, каб неяк стачыць канцы з канцамі, што вярнуліся думкі аб клятым беларускім коле, якім бягуць — не спыняючы мільёны простых беларусаў, але аніяк не даюць рады праблемам, што я... пашкадаваў сябе. Не зважаючы на краты і калючы дрот, я гэтаксама змушаны бегчы з імі разам, бо мы ўсе павязаныя нябачным ментальным ланцугом, які не ў стане парваць...

І гэты настрой спрычыніўся да таго, што ў зваротным лісце да знаёмай я выклаў прыкладна ўсё тое ж самае, аб чым пішу цяпер. Адправіў. І пачаў пакутаваць на сумленне, што нізавошта пакрыўдзіў чалавека. Праз што даслаў наўздагон ліст з выбачэннямі. А ў адказ атрымаў наступнае: *«Читали мы твоё письмо. Всё так, как ты написал. Всё правда. Но кому от этого легче?..»*

## Што далей?

На гэтым магчыма было б паставіць кропку, напісаўшы, што карэнне праблемы ў Беларусі хаваецца ў ментальнасці большасці беларусаў, а віну за стан краіны — і свой уласны — яны мусяць падзяліць з уладай, якую высунулі са сваіх шэрагаў і доўгі час падтрымлівалі. І што зменаў да лепшага не будзе таму, што іх свядомасць застаецца нязменнай.

Але я мушу сказаць словы ў абарону гэтай беларускай большасці. Звычайна людзі падсвядома адчуваюць, што падчас ажыццяўлення структурных рэформаў іх узровень жыцця на нявызначаны час пагаршаецца яшчэ больш. І нават пры паспяховым выніку не ўсе з іх акажуцца сярод выйграўшых. Працуе элементарны інстынкт выжывання, які змушае як найдалей працягнуць сваё, няхай і незайздроснае, існаванне.

І гэта праўда, перамены ў Беларусі могуць адбыцца толькі за кошт простых людзей. Добра заклікаць іх патрываць некаторы час, маючы «падушку бяспекі». Нават мне, вязню, гарантаваная хай сабе не надта смачная, але штодзённая пайка. А ім? А іх дзецям?

Але ў праўды — насуперак уяўленням простых людзей — не адзін, а некалькі бакоў: без сённяшняга пагаршэння жыцця для бацькоў не можа стацца добрае заўтра для дзяцей і ўнукаў. Не можа быць і Беларусі.

Апошняе зусім іншы бок праўды — Беларусь як нацыянальная, суверэнная і незалежная, і ўвогуле як дзяржава, не столькі патрэбная простым беларусам, колькі тым, хто прылічае сябе да інтэлектуалаў — думаючай меншасці. Некалі Рабэрта Бальанье напісаў, што «радзіма для рабочага ёсць яголавы рукі», а Уладзімір Някляеў сказаў, што «на ўвесь час нашага існавання на зямлі нам трэба разлічваць на сябе такіх, якія мы ёсць».

Усё гэта азначае, што выхад з тупіку для Беларусі мусіць шукаць і прапаноўваць іншым менавіта думаючая меншасць. Галоўнае пытанне — не «хто вінаваты», а «што будзе далей». *«Широкие массы»* на яго адказаць не ўстане, яны здольныя адно зрынуць уладу, што іх не задавальняе. І не спяшаймася цешыцца, калі гэтак адбудзецца. Улада наступная, асабліва дэмакратычная і ліберальная, якой простыя беларусы не будуць баяцца, хутка ўбачыць, што азначае *«пробуждение масс»*. Мы ўсё гэта ўбачым, таму што адказаць становіцца на «пытанне Васі» можа толькі чараўнік...

***P.S.:*** *Гэты ліст мы атрымалі напачатку ліпеня ад вязня Глыбоцкай папраўчай калоніі №13. Ліст цікавы яшчэ і тым, што напісаны ён чалавекам, які шмат гадоў знаходзіцца за кратамі і можа сачыць за тым, што адбываецца ў краіне, толькі адтуль.*

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЛІТВА. «Зялёны змій» перамог

Парламенцкія выбары 2016 года скончыліся ў Літве трыумфам «Саюза сялян» і «Зялёных Літвы». Адным з галоўных прыярытэтаў новай кіруючай сілы стала барацьба за цвярозасць. Антыалкагольная кампанія аграрыяў аказалася жорсткай і бескампраміснай. Павелічэнне акцызаў, забарона на продаж алкаголю асобам маладзейшым за 20 гадоў, абмежаванне продажу спіртных напояў па часе — вось толькі невялікі пералік захадаў, уведзеных з ініцыятывы Кабінета міністраў. Па набліжэнні новых выбараў надышоў час падводзіць вынікі. Яны аказаліся невясёлымі. Паводле экспертаў Віленскага ўніверсітэта, колькасць выпітага алкаголю ў пераліку на душу насельніцтва за пяць гадоў зменшылася. Але калі ў 2016 годзе алкаголь ужывалі 57% жыхароў Літвы, то ў 2020-м іх было ўжо 64%. Прапорцыя змянілася з-за таго, што катэгорыя піўшчых моцна памаладзела: сярод літоўцаў ва ўзросце да 30 гадоў колькасць аматараў спіртнога павялічылася з 10% да 21%: больш чым двухразовы рост за чатыры гады! З улікам таго, што беспрацоўе (галоўны фактар алкагалізацыі літоўцаў) асабліва не павялічылася, прычынай можа быць рэакцыя моладзі на забароны і абмежаванні. «Рост спажывання алкаголю — бунтарскі адказ антыалкагольнай кампаніі аграрыяў», — лічаць эксперты.

**Паводле латышскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Дагуляліся!

Паводле апублікаванага ў ФРГ даследавання, падчас каранціну дзеці і падлеткі значна больш часу правялі за кампутарнымі гульнямі. Сярэдні час, выдаткаваны на гульні, вырас з 80 хвілін мінулай восенню да 140 хвілін у красавіку гэтага года. Зыходзячы са статыстыкі, дактары заклікаюць урад неадкладна ратаваць пакаленне, якому пагражае псіхічная залежнасць ад кампутарных гульняў. Згодна з падлікамі лекараў, як мінімум 700 тысяч дзяцей і падлеткаў у будучыні могуць стаць хворымі на гэтай глебе з усімі негатыўнымі для грамадства наступствамі. Людзі, якія маюць гульнявую залежнасць, у сацыяльным плане дэградуюць гэтак жа, як людзі, якія пакутуюць ад алкагалізму або наркаманіі. Залежнасць прыводзіць да хуткага развіцця сацыяльнай ізаляцыі і адзінага жадання — працягваць гульню. Урэшце, жыццё чалавека руйнуецца. У якасці першай меры медыкамі прапануецца нацыянальная сістэма ранняга папярэджання такой залежнасці. Між тым, прадстаўнік нямецкай асацыяцыі вытворцаў кампутарных гульняў не пагаджаецца з такімі высновамі. Паводле яго слоў, гульні падчас каранціну толькі дапамагаюць дзіцяці перажыць стрэс ад адсутнасці камунікацый з аднагодкамі і немагчымасці пакінуць памяшканне.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. Не татары прыдумалі мат

Доктар філалагічных навук Міхаіл Асадчы ў інтэрв'ю аднаму з расійскіх выданняў развеяў міф пра тое, што мат у мове ўсходніх славян з'явіўся адразу пасля нашэсця татара-манголаў. На самай справе забароненая лексіка існавала на Русі задоўга да прыходу Залатой Арды, хаця калісьці даўно ўсе непрыстойныя словы з'яўляліся нармальнымі для ўжывання. На думку навукоўца, распаўсюджванню мату мы абавязаныя, хутчэй, рэвалюцыйным падзеям 1917 года. Тады размаўляць на літаратурнай мове было не проста не модна, а нават у нейкай ступені небяспечна. Сваёй гаворкай чалавек выдаваў сваю сацыяльную прыналежнасць да дваранства або духавенства, што магло стаць смяротным прысудам. Акрамя таго, прадстаўнікі ўлады той эпохі ўсяляк падкрэслівалі сваю народнасць. «Гэтая мода на просты народ і моцнае слоўца з вуснаў улады і ўмацавала мат у нашай культуры, зрабіла яго такім папулярным», — патлумачыў Міхаіл Асадчы.

**Паводле расійскай прэсы**

### БЕЛЬГІЯ. Жанчына, якая стала курыцай

У Бельгіі зафіксаваны выпадак рэдкай хваробы заантропіі — хваробы, калі чалавек лічыць сябе жывёлай. Яе ахвярай стала 54-гадовая жанчына, якая раптам вырашыла, што яна — курыца. Пасля аператыўнай медыцынскай дапамогі жанчына прыйшла ў сябе і нават не памятала, што нядаўна скакала, квахтала і размахвала рукамі як крыламі. Псіхіятры лічаць, што прыступ быў выкліканы дэпрэсіяй праз нядаўнюю смерць сябра сям'і. Аднак гэта ўсяго толькі гіпотэза, паколькі выпадкі клінічнай заантропіі вельмі рэдкія. У перыяд з 1850-га па 2012 год у медыцынскай і гістарычнай літаратуры было ўсяго 56 апісанняў такой хваробы. Пацыенты паведамлялі, што лічылі сябе сабакам, ільвом, тыграм, гіенай, акулай, кракадзілам, жабай, быком, катом, гусаком, насарогам, трусам, канём, змяёй, птушкай, кабаном і нават пчалой. Час, калі назіраюцца сімптомы заантропіі, звычайна вагаецца ад адной гадзіны да некалькіх дзесяцігоддзяў. Ёсць розныя погляды на прычыны ўзнікнення хваробы. Ілюзія, што ты — жывёла, можа ўзнікнуць пры глыбокім псіхічным разладзе, але, магчыма, гэта таксама можа быць вынікам структурных або функцыянальных праблемаў мозгу.

**Паводле брытанскай прэсы**



Фота www.lrt.lt

# Заплаціць за Варшаву

Алег НОВІКАЎ

**Ці не ўпершыню падчас урачыстасцяў з нагоды гадавіны Варшаўскага паўстання 1 жніўня 1944 года было агучана патрабаванне рэпарацый за разбурэнне нямецкімі жаўнерамі польскай сталіцы.**

Тэма выплаты нямецкіх рэпарацый для Польшчы перыядычна вяртаецца ў грамадскую польскую дыскусію ў гадавіны, звязаныя з Другой сусветнай вайной, і выклікае ў тым ліку ўздым антынямецкіх настрояў. Цалкам верагодна, што менавіта гэтая з'ява прымусіла нямецкае пасольства напярэдадні чарговай гадавіны Варшаўскага паўстання даслаць польскаму грамадству своеасаблівы сігнал прымірэння. На старонцы пасольства ў Twitter з'явіўся допіс, што сцягі перад дыпламатычнай установай будуць прыспушчаныя ў знак «глыбокага болю і сораму» за ўчынкі немцаў падчас вайны на тэрыторыі Польшчы.

Рэакцыя на акцыю пасольства ФРГ была яўна не той, на якую разлічвалі дыпламаты. Намеснік міністра дзяржаўных актываў, чалец кансерватыўнай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS) Януш Кавальскі апублікаваў рэзанансны запіс: «Немцы разбурылі Варшаву. Яны забілі сотні тысяч яе жыхароў. Праца па знішчэнні горада была завершаная савецкімі захопнікамі. У 2004 годзе матэрыяльныя страты краіны ацэньваліся ў 45 мільярдаў долараў! Да сённяшняга дня немцы не заплацілі Польшчы рэпарацый і таксама не заплацілі за разбурэнне Варшавы», — напісаў палітык.

Ён таксама паведаміў, што мае намер у размове з прэм'ерміністрам Маравецкім падняць пытанне, як рэалізуецца рэзалюцыя Сейма ад 10 верасня 2004 года, якая абавязвае ўрад «прыняць захады па выплаце рэпарацый за знішчэнне польскай дзяржавы Германіяй падчас вайны».

Тэму рэпарацый за Варшаву аператыўна падхапіла вуліца. На мерапрыемствах 1 жніўня, якія арганізавалі правыя партыі, таксама гучалі патрабаванні рэпарацый.

У чымсьці такую пазіцыю можна зразумець. Нямецкія акупанты ў час вайны заўсёды крыва глядзелі на Варшаву, разглядаючы яе як цэнтр польскага супраціву нацысцкаму «новаму парадку». І хаця ў генеральным губернатарстве (так называлася акупаваная нацыстамі частка Польшчы) былая сталіца мела статус правінцыйнага горада, Варшава заўсёды заставалася цэнтрам польскага палітычнага, інтэлектуальнага і культурнага жыцця. Тут таксама знаходзіўся цэнтр каардынацыі структур руху супраціву.

Яшчэ 15 ліпеня 1940 года генерал-губернатар Ганс Франк заявіў: «У выпадку з Варшавай фюрэр вырашыў, што рэканструкцыя гэтага горада як польскага мегаполіса абсалютна немагчымая. Фюрэр хоча, каб Варшава стала правінцыйным горадам». Пазней у так званым «плане Пабст» меркавалася, што насельніцтва Варшавы будзе скарочанае да 130 тысяч чалавек, а плошча — да 15 квадратных кіламетраў. У паўднёва-заходнім напрамку ад цэнтра сталіцы планавалася пабудаваць «Новы нямецкі горад Варшава» (Die neue Deutsche Stadt Warschau).

Катастрофы Трэцяга рэйху на франтах перашкодзілі ажыццяўленню «плану Пабст». Таму нацысцкія лідары ўспрынялі пачатак паўстання як выдатнае апраўданне для вырашэння праблемы Варшавы. 21 верасня 1944 года рэйхсфюрэр СС Генрых Гімлер дакладваў Гітлеру, што пасля адыходу нямецкіх фарміраванняў «сталіца 16–17 мільёнаў палякаў будзе знішчаная». Разбурэнне Варшавы Гімлер нават называў гістарычным рашэннем пытання прарыву Германіі на Усход.

Сапраўды, два месяцы жудасных вулічных баёў прынеслі Варшаве велізарныя матэрыяльныя страты. 25% будынкаў на левым беразе горада былі разбураныя. Стары горад быў знесены амаль на цалкам (у 1945 годзе толькі адзін будынак у гэтым раёне быў прыдатны для выкарыстання). Прычым разбурэнні былі выкліканыя не толькі артылерыйскімі абстрэламі і паветранымі налётамі, але і наўмыснымі падпаламі з боку нямецкіх войскаў, якія разглядалі спальванне цэлых кварталаў як законны метад ваенных дзеянняў.

Ці можна атрымаць кампенсацыі за апісаныя злачынствы Вермахту? На думку большасці спецыялістаў у міжнародным праве, сумнеўна. У тым ліку таму, што пасляваенная сацыялістычная Польшча, афіцыйным нашчадкам якой з'яўляецца цяперашняя Рэч Паспалітая, ад кампенсацый з боку ГДР адмовілася. У крайнім выпадку, немцы заўсёды могуць прапанаваць разглядаць у якасці кампенсацыі землі ў Сілезіі і Балтыі, якія атрымала Польшча пасля вайны. Напэўна таму, не разглядаючы тэму рэпарацый як сур'ёзную, нямецкая прэса нават не каменуе ваяўнічыя сентэнцыі Кавальскага.

У гэтым плане як старыя, так і апошнія спробы палітыкаў PiS актуалізаваць пытанне аб рэпарацыях прызначаныя, хутчэй, для ўнутранага палітычнага рынку. Гульня на антынямецкіх настроях часткі электарату стала для кансерватараў сродкам у барацьбе з ліберраламі, за якімі, нібыта, тырчаць вушы Берліну.

Заявы Кавальскага можна таксама разглядаць у рэчышчы новага клінчу Варшавы і Брусэля з-за так званых «Зонаў, свабодных ад ЛГБТ». Свабоднымі ад ЛГБТ абвясцілі сябе шматлікія польскія муніцыпалітэты, дзе пры ўладзе знаходзіцца PiS. Такая практыка крытыкавалася ў тым ліку ў нямецкай прэсе, і прымусіла Еўракамісію абвясціць аб блакаванні еўрапейскіх сродкаў для мясцовых органаў улады, што прынялі рэзалюцыі аб Зонах. Усё той жа Януш Кавальскі, каментуючы ініцыятыву Еўракамісіі, заявіў пра неабходнасць прыняцця закона, што абвесціць усю Польшчу зонай, вольнай ад ЛГБТ. Такая канфрантацыйная заява абяцае нам новую серыю разборак, якія, натуральна, не абыдуцца без спасылак на падзеі мінулага.

# Вайна ў час чумы

Алег НОВІКАЎ

**Не паспелі армяне цалкам справіцца з эпідэміяй, як у ліпені на азербайджанскай мяжы пачаліся вайсковыя інцыдэнты. Як жыве краіна ва ўмовах каранціну і амаль вайсковага становішча? Пра гэта «Новаму Часу» распавядае армянскі палітык Арменак Даўляцян.**



Фота www.bryansktoday.ru

***— Ці можна казаць, што цяперашняя канфрантацыя Арменіі з Азербайджанам з'яўляецца руцінным, дзяжурным выпадкам, або гэтым разам тут ёсць нешта незвычайнае?***

— Сапраўды, дзяжурным канфлікт назваць цяжка. Я не памятаю, каб сутычкі адбываліся непасрэдна на мяжы Азербайджана і Арменіі. Звычайна баявыя дзеянні мелі месца ў Нагорным Карабаху. Другім сюрпрызам сталі паводзіны Турцыі, якая не толькі аператыўна заявіла пра гатоўнасць падтрымаць Баку. Днямі турэцкія і азербайджанскія войскі ўпершыню пачалі сумесныя вучэнні ў Нахічаванскай акрузе. Гэта адназначна спрыяе эскалацыі сітуацыі (для даведкі, ад Нахічаваню да Ерэвана па прамой — усяго каля 50 кіламетраў).

***— Напярэдадні канфрантацыі Арменія дэманстравала дастаткова высокую на фоне каўказскіх краін-суседзяў дынаміку захворвання на COVID-19. Як можна ваяваць ва ўмовах каранціну?***

— Ніякага ўздзеяння на стан армянскага войска эпідэмія не мае. Напэўна, таму, што да падобнага сцэнару рыхтаваліся адразу з прыходам каронавіруса. На жаль, гэтага нельга сказаць пра эканоміку. Эканамічная сітуацыя апошнім часам пагоршылася. Праўда, трэба прызнаць, што негатыўныя працэсы ў гаспадарцы назіралася і да пачатку эпідэміі, што, безумоўна, адмоўна ўплывае на рэйтынг ураду Ніколы Пашыняна.

***— Пашынян прыйшоў да ўлады якраз два гады таму на хвалі армянскага Майдана. Ці атрымалася краіне зрабіць прарыў пад кіраўніцтвам яго праеўрапейскай ліберальнай партыі «Мой крок»?***

— У некаторых сферах поспехі ёсць, — напрыклад, у дзейнасці Мінабароны і Міністэрства рэгіянальнага развіцця. Аднак перазапуску гаспадаркі за кошт прытоку замежных інвестыцый і актываў, канфіскаваных у старых кланаў, армяне так і не дачакаліся. Міністры Пашыняна разводзяць рукамі і кажуць: ніякіх грошай не знайшлі. Абяцаныя гучныя судовыя працэсы над старымі палітыкамі-карупцыянерамі таксама затармазіліся. Днямі той жа экс-прэзідэнт Роберт Качаран быў выпушчаны пад заклад, і цяпер выкладвае фоткі, на якіх весела катаецца на водных лыжах па возеры Севан.

Такі кур'ёз — шмат у чым вынік няздольнасці Пашыняна вельмі хутка, у 2018-м, змяніць склад судовага і сілавога апаратаў. У некаторых ведамствах новых кіраўнікоў не прызначалі на працягу васьмі месяцаў. Цяпер, напэўна, ужо позна, паколькі былыя эліты ачомаліся і навучыліся выжываць у пострэвалюцыйных умовах. Іх прадстаўнікоў Пашынян цяпер нават рэкамендуе на высокія дзяржаўныя пасады, што выклікае шок у тых, хто два гады таму выходзіў на вуліцу.

***— Хто можа прыйсці на месца Пашыняна на наступных выбарах, якія павінны адбыцца праз пару гадоў?***

— Пакуль не зразумела. Зараз нішу вядучай апазіцыі фармальна займае партыя «Квітнеючая Арменія» алігарха Гагіка Царукяна, якая не мае зразумелага ідэалагічнага твару. Дарэчы, адзін з чальцоў яго фракцыі сябруе з Лукашэнкам. Аднак не факт, што гэтая групоўка захавае імідж галоўнай апазіцыйнай сілы. Пашынян патрабаваў праверыць бізнес алігарха, каб відавочна шантажаваць яго. Акрамя таго, у сеціве нарошчваюць актыўнасць СМІ, гаспадары якіх — кланы, што пацярпелі ад рэвалюцыі 2018-га. Можна прагназаваць, што з часам пачне фарміравацца партыя рэваншу, аднак наўрад ці яна будзе маналітнай.

***— Што можна сказаць пра антыўрадавыя пратэсты ў Баку каля месяца таму?***

— Гэтага варта было чакаць праз аб'ектыўныя праблемы краіны. Падзенне сусветных коштаў на нафту выклікала праблемы з экспартам і скарачэнне сацыяльных праграм. Пратэсты на цяперашні дзень, быццам, скончыліся. Аднак у выпадку паўтарэння сітуацыі яны патэнцыйна могуць быць выкарыстаныя бакінскім або нахічаванскім кланамі, якія традыцыйна нешта не могуць падзяліць. Гэта можа мець палітычныя наступствы.

***— Як вам бачыцца будучыня Арменіі і закаўказскага рэгіёну, скажам, праз пяць гадоў?***

— Усё залежыць ад шматлікіх фактараў, у тым ліку геапалітычных гульняў. Напрыклад, Турцыя апошнім часам намагаецца ўзмацніць свае пазіцыі ў рэгіёне. У адказ Грэцыя і Егіпет ужо фарміруюць нейкую антытурэцкую кааліцыю. Расія дэманстратыўна праводзіць вучэнні войскаў паўднёвай вайсковай акругі, да якой адносіцца і яе база ў Арменіі. Шмат будзе залежаць ад вынікаў прэзідэнцкіх выбараў у Злучаных Штатах. Паколькі армянская дыяспара ў Амерыцы падтрымлівае дэмакратаў, іх перамога можа актывізаваць палітыку ЗША на Каўказе. У нашым рэгіёне ўсё больш адчуваецца роля Кітая. Таму маленькім каўказскім краінам цяпер важна не стаць удзельнікамі рознага кшталту проксі-войнаў, якія вялікія дзяржавы могуць весці за іх кошт.

**Падзенне сусветных коштаў на нафту выклікала праблемы з экспартам і скарачэнне сацыяльных праграм. Пратэсты на цяперашні дзень, быццам, скончыліся. Аднак у выпадку паўтарэння сітуацыі яны патэнцыйна могуць быць выкарыстаныя бакінскім або нахічаванскім кланамі, якія традыцыйна нешта не могуць падзяліць. Гэта можа мець палітычныя наступствы**

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Сьюзан Райс



Былая дарадца Абамы па нацыянальнай бяспецы і экс-прадстаўнік ЗША ў ААН, згодна прэсе, з'яўляецца кандыдатам нумар адзін на пасаду віцэ-прэзідэнта ЗША ад Дэмакратычнай партыі. Джо Байдэн — прэтэндэнт ад дэмакратаў на пасаду кіраўніка Белага дома, нібыта, зрабіў выбар на карысць Райс, паколькі добра ведае яе па працы ў адміністрацыі Абамы. Відавочна, выбар прадыктаваны намерам прыцягнуць на выбарах сімпатыі афраамерыканцаў і жанчын. Акрамя таго, Байдэн у выпадку яго абрання збіраецца шчыльна заняцца міжнароднай палітыкай, і яму патрэбны эксперт у гэтай галіне. Хаця паход Райс у палітыку яшчэ пад пытаннем, праціўнікі ўжо сабралі на яе кампрамат. Па-першае, кажуць, што яна як сябра кіраўніка Дзярждэпа Хілары Клінтан датычная да гучнага праваму ў Бенгазі, дзе ісламскія тэрарысты забілі амерыканскага амбасадара. Па-другое, Райс паходзіць з багатай сям'і і, нібыта, ніколі не мела ніякай сувязі з барацьбой за дэмакратычныя правы афраамерыканцаў, у тым ліку з пратэстамі супраць жорсткасці паліцыі. Наадварот, яна была вядомая як прыхільніца шэрагу афрыканскіх дыктатараў, пакуль тыя праводзілі знешнюю палітыку ў рэчышчы ЗША. У любым выпадку, да Райс варта прыгледзецца. З 77-гадовым Байдэнам, якому прыпісваюць праблемы з памяццю, на пасадзе прэзідэнта можа здарыцца што заўгодна, і тады, паводле Канстытуцыі, пасаду кіраўніка ЗША будзе займаць віцэ-прэзідэнт.

### Хуан Карлас Першы



Былы кароль Іспаніі пакінуў краіну — так скончылася цэлая эпоха ў іспанскай гісторыі. Менавіта кароль Хуан Карлас, абраны ў якасці пераемніка Франка, стаў сімвалам «дэмакратычнай трансфармацыі» Іспаніі пасля смерці дыктатара. Аднак імідж дэмакрата вельмі хутка сапсавалі розныя прыгоды манарха. На яго рахунку шматлікія каханкі, блізкае сямейнае сяброўства з арабскімі шэйхамі і гандаль зброяй узамен на нафту, паляванне на сланоў у Батсване, нягледзячы на пасаду ганаровага кіраўніка іспанскага Таварыства абароны дзікай прыроды. Ну і фінансавыя махінацыі — як жа без іх. Але фатальным эпізодам для караля стала пасярэдніцтва пры будаўніцтве лініі хуткаснай чыгункі ў Саудаўскай Аравіі. Хуан Карлас атрымаў «адкат» у 100 мільёнаў еўра, якія пазней былі выяўленыя ў Швейцарыі на рахунку яго каханкі. На яе ён таксама аформіў некалькі элітных аб'ектаў нерухомасці па ўсім свеце, але пасля расстання запатрабаваў іх назад. Каханка адмовілася вяртаць падарункі, пасля чаго, па яе словах, да яе ў дом прабраліся агенты іспанскай спецслужбы і выкралі дакументы. На яе адрас сталі прыходзіць пагрозы. Швейцарскія службы былі вымушаныя пачаць справу супраць караля, і вельмі падобна, што следства набліжаецца да фіналу. Гэта, здаецца, і прымусіла экс-манарха з'ехаць з тэрыторыі Іспаніі ў невядомым кірунку. А ў краіне пачаліся дэбаты пра пераход да рэспубліканскага ладу.

### Ігар Палішчук



Выконваючы абавязкі мэра ўкраінскага Луцку запусціў новую моду сярод кіраўнікоў украінскіх гарадоў і рэгіёнаў. Ён адмовіўся ўводзіць новыя абмежаванні, якіх патрабуе Кіеў у сувязі з эпідэміяй. Зыходзячы з абмежаванняў, якія прапісалі ў Міністэрстве аховы здароўя, у Луцку не павінны працаваць грамадскі транспарт, рэстараны, кавярні, ТРЦ, навучальныя ўстановы. У сваю чаргу, Палішчук заявіў, што гэта рашэнне «дурное, несвоечасовае і непрафесійнае», а «луцкі гарадскі савет не будзе прымаць ніякіх рашэнняў на гэты конт». Падобным чынам адказалі на эпідэміялагічныя інструкцыі цэнтру і ў Цярнопалі. Пры гэтым аказалася, што Кіеў нічога не можа зрабіць з бунтам мэраў. Адзінае, на што здольныя кіеўскія чыноўнікі, — забараніць пасажырскім цягнікам спыняцца ў Луцку і Цярнопалі. Такая сітуацыя, натуральна, выклікала заклапочанасць экспертаў, якія кажуць, што краіна аказалася перад дылемай: або перазагрузка і з'яўленне працаздольнага цэнтра, або рэгіяналізацыя, федэралізацыя і нават распад. Зрэшты, ёсць думка, што дэмаршы мэраў маюць сітуацыйны характар і выкліканыя хуткімі мясцовымі выбарамі. І мэрам, і дэпутатам гарсаветаў трэба ісці на выбары — і, натуральна, яны не хочуць выглядаць начальнікамі, якія ўводзяць непапулярныя каранцінныя абмежаванні.

# Каліноўскі і Сталін, Траўгут і Ленін: Парадоксы гісторыі свіслацкай «Алеі помнікаў»

Ганна ВАРОНКА

**Адзіны (першы) помнік Кастусю Каліноўскаму і адзіны (апошні) помнік Іосіфу Сталіну ў Беларусі знаходзяцца ў Свіслачы. Маленькае беларускае мястэчка паблізу ад мяжы з Польшчай некаторыя называюць горадам кантрастаў. Гэта і не дзіўна, дастаткова ўбачыць мясцовыя помнікі, каб патрапіць адразу ў некалькі гістарычных эпох.**

У XVIII стагоддзі, калі мястэчкам уладарыў сенатар Вялікага Княства Літоўскага Вінцэнт Тышкевіч, Свіслач квітнела: там быў тэатр, звярынец, вялікай прыгажосці парк, базарная плошча і кірмашы, што па тавараабароце саступалі ў Беларусі толькі Зэльвенскім. Сучасны горад Свіслач з насельніцтвам каля шасці тысяч выглядае зусім інакш, аднак таксама варты ўвагі. Найперш праз «Алею помнікаў». У самым цэнтры горада на вуліцы 17 Верасня месціцца сквер, на ўсю яго даўжыню расцягнуліся памятныя знакі: брацкая магіла савецкіх воінаў і партызанаў, Іосіфу Сталіну, Уладзіміру Леніну, Рамуальду Траўгуту, салдатам-інтэрнацыяналістам. Наводдаль праз дарогу стаіць таксама бюст Кастуся Каліноўскага, з яго пачынаецца (ці заканчваецца) алея.



Скразны від на алею

Помнік Каліноўскаму з'явіўся ў Свіслачы ў 1958 годзе. Пагрудны бронзавы бюст на пастаменце адлюстроўвае нацыянальнага героя Беларусі ў экспрэсіўным парыве: валасы развіваюцца, рука напружана сціснута — зрэшты, такой і мусіць быць класічная выява героя. Помнік працы знакамітага скульптара Заіра Азгура ўключаны ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь.

Невыпадкова першае скульптурнае ўвасабленне Каліноўскага з'явілася менавіта ў Свіслачы. Непадалёк ад горада, у вёсцы Якушоўка, знаходзіўся маёнтак бацькі і мачыхі рэвалюцыянера, пра іх сядзібу цяпер нагадвае толькі фундамент. Таксама Каліноўскі вучыўся ў знакамітай вальнадумствам Свіслацкай гімназіі — яе скончылі шэраг выбітных асобаў: мастак і кампазітар Напалеон Орда, пісьменнік Юзаф Крашэўскі, мастак-баталіст Януар Сухадольскі, палітычныя дзеячы і паўстанцы Віктар Гельтман, Рамуальд Траўгуту і шмат-шмат іншых.

Помнік апошняму, генералу Траўгуту, аднаму з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гадоў, пачалі будаваць у 1924 годзе па ініцыятыве дырэктара Свіслацкай настаўніцкай семінарыі Баляслава Борыса. Спачатку быў узведзены толькі пастамент. У такім выглядзе і адбылося адкрыццё помніка з удзелам урачыстай дэлегацыі з Польшчы, двух біскупаў з Вільні, архірэя з Гродна і дачкі рэвалюцыянера Ганны Юшкевіч. Толькі праз чатыры гады з'явіліся астатнія дэталі: партрэт Траўгута, выява арла і надпісы «Рамуальду Траўгуту — землякі. 1928», «Бог і Айчына», даты нараджэння і смерці.

«Рамуальд Траўгут, нацыянальны герой Польшчы, вучыўся ў нашай гімназіі, і потым некаторы час яна нават была названая ў яго гонар. Таму сімвалічна было паставіць гэты помнік у нашым горадзе. Памятны знак спраектаваў свіслачанін, матэрыял для будаўніцтва таксама збіралі мясцовыя. А пры наступленні Чырвонай Арміі помнік схавалі. Хтосьці памёр, нехта забыўся — і вярнуць схаванае стала немагчыма. Давялося аднаўляць па рашэнні райвыканкама», — распавядае супрацоўніца Свіслацкага краязнаўчага музею Людміла Жук.

У 1989 годзе гродзенскія рэстаўратары пад кіраўніцтвам Аляксандра Анціпіна сапраўды аднавілі помнік паводле архіўных матэрыялаў. Праз паўстагоддзя Рамуальд Траўгут вярнуўся ў Свіслач. Праўда, на вуліцу, што называлася ўжо не яго імем, а ў гонар 17 Верасня — даты далучэння Заходняй Беларусі да БССР. Вось як успамінае тыя часы Міхаіл Карпюк, які быў галоўным архітэктарам Свіслацкага раёна на працягу амаль 40 гадоў: «Мы аднаўлялі помнік па здымках. Былі чуткі, што арла, які месціўся на самым версе памятнага знака, схавалі і закапалі. Мы шукалі, але нічога не знайшлі. Таму я адмыслова ездзіў у Літву, каб там адліліць новага арла. Паставілі яго на ўжо існуючы пастамент».

Не абмінуў Свіслач, як і амаль усе беларускія гарады, помнік Уладзіміру Леніну. Як дэжавю, пазнавальная фігура стаіць у сэрцы алеі помнікаў ды паказвае бетоннай рукой на мясцовую бальніцу. Скульптуру паставілі ў 1946 годзе, але яна наўрад ці мае вялікае культуралагічнае значэнне, бо з ідэнтычных выяваў у краіне бадай што можна сабраць маленькую армію Цынь Шыхуандзі.

Першы ж помнік пераемніку правадыра сусветнага пралетарыяту Іосіфу Сталіну з'явіўся ў Свіслачы ў 1939 годзе — адразу, як Заходняя Беларусь, а разам з тым і мястэчка, далучылася да СССР. Аднак у 1956 годзе мясцовыя жыхары знялі яго з пастамента і закапалі недзе ў ваколіцах горада. Гісторыя даволі распаўсюджаная для таго часу: пасля выкрыцця культу асобы на ХХ з'ездзе КПСС помнікі Сталіну пачалі масава дэмантаваць па ўсёй краіне. Так, у 1961 годзе за адну ноч яго скульптурная выява знікла і з Кастрычніцкай плошчы Мінска. Але, у адрозненне ад сталіцы, у Свіслач помнік Сталіну вярнуўся.

«У 2000 годзе адпаведнае рашэнне прынялі мясцовыя ўлады на прапанову ветэранскай арганізацыі. Бюст знайшлі ў калгасе «Вердамічы», які раней называўся ў гонар былога кіраўніка СССР. Пасля дэмантажу помнік так і захоўваўся ў падсобным памяшканні. Аляксандр Палубінскі, наш вядомы краязнаўца, прапанаваў паставіць бюст у алеі, дзе планавалася размясціць усе помнікі, якія калісьці існавалі ў мястэчку», — расказвае Людміла Жук. Да помніка ў Свіслачы, працягвае супрацоўніца музея, рознае стаўленне: «Яго паставілі перад Новым годам вельмі вузкім колам. Доўга не прыжываўся, людзі па-рознаму выказваліся: абураліся, дзівіліся. Некаторыя пакідалі надпісы на помніку, даводзілася зафарбоўваць. А праз пэўны час супакоіліся. Мы заўсёды гаворым падчас экскурсій, што ў алеі адлюстраваныя эпохі, гістарычныя падзеі, якія адбываліся на тэрыторыі Свіслаччыны».

Былы галоўны архітэктар запомніў вяртанне помніка Сталіну трошкі інакш: «Быў у нас такі старшыня райвыканкама Анатоль Кузьма, чамусьці да Сталіна вельмі добра ставіўся. У Вердамічах якраз знайшлі бюст, які валяўся ў загажніку, перавезлі сюды. Я намаляваў эскіз, зрабілі маналітны пастамент, і на яго ўсталявалі таго Сталіна. Увогуле, усё прайшло мірна і добра, можа, толькі пару чалавек былі не задаволены».

На пытанне, ці патрэбна, каб Свіслач заставалася апошнім горадам у Еўропе з помнікам Сталіну (яшчэ адзін бюст знаходзіцца ў гісторыка-культурным комплексе «Лінія Сталіна»), Міхаіл адказвае: «А каму яшчэ паставіць помнік? Я не ведаю. Ну, быў Іосіф Сталін, правадыр. Гэта гісторыя Савецкага Саюза, дзяржавы. Цяпер ужо і Беларусі. Але я, дапусцім, усё яшчэ адношу сябе да часоў СССР, калі ўсё было свабодна: у любую рэспубліку паляцеў, рабі што хочаш. Сталін зрабіў нямала для Савецкага Саюза. А тое што там тыранія — гэта іншыя, гэта пры Леніне было. І пры Леніне таксама нямала людзей загінула, а мо і больш. Гісторыя… Гэта не азначае, што мы іх усхваляем. Было і было. У алеі яшчэ засталося вольнае месца, можна было б паставіць Каліноўскаму. Пакуль размоваў пра які-небудзь новы помнік у алеі не вядзецца. На ўсё ж патрэбныя грошы. Зрабіць добры помнік — не танна. А, як вядома, у нас у бюджэце…»



Помнік К. Каліноўскаму



Помнік І. Сталіну



Помнік Р. Траўгуту



Помнік У.Леніну

**За гістарычныя фота дзякуем Міхаілу Карпюку**

# «Самы шчаслівы чалавек»

Сяргей КАЙКО

**Тыдзень таму мы звярнулі ўвагу на футбольны чэмпіянат краіны — і трапілі дакладна ў цэль. Сапраўды: у гэтым годзе нацыянальнае першынства надзвычай цікавае, і мінулы тур тое ўпэўнена пацвердзіў. Таму працягнем расповед на гэтую тэму — яна таго вартая. Тым больш, што надалей жарсці на беларускіх стадыёнах будуць толькі распальвацца, інтрыга — квітнець, а апафеоз — памалу набліжацца.**



Юрый Пунтус з камандай здабылі самую сенсацыйную перамогу 20-га тура

Фота прэс-службы ФК «Тарпеда» — БелАЗ

Гродзенскі «Нёман» у суботу зноў прымаў віншаванні. Каманда Ігара Кавалевіча выдатна прайшла чарговае выпрабаванне, пераможна раскатаўшы на сваім полі мінскае «Дынама». Амаль тры тысячы гледачоў назіралі за адным з найбольш рэйтынгавых паядынкаў уік-энду, і пасля фінальнага свістка нёманская тарсіда вітала сваіх гераічных хлопцаў.

Было за што. Па-першае, гродзенцы зноў захавалі свае вароты «сухімі». Цяпер іх абарона — адна з наймацнейшых у лізе, менш прапускае толькі «Шахцёр». Па-другое, «Нёман» нават падкрэслена не дбаў пра тое, каб адбівацца талакой дзеля «нуля ззаду». Ён, наадварот, настойліва шукаў поспеху ў атацы. Усё больш відавочна, што гродзенцы ў сёлетнім сезоне быццам ментальна перакаваліся. Якога б суперніка яны перад сабой ні бачылі — заўсёды ляцяць наперад і нікога не баяцца. Так было і з «Дынама», да якога гаспадары поля паставіліся без аніякай пачцівасці. Яны пераўзышлі статуснага апанента і ў колькасці ўдараў ды вуглавых, і наогул у гульнявой актыўнасці.

Таму і перамога атрымалася бясспрэчнай, хаця і колькасна мінімальнай. Адзіны мяч запісаў на свой рахунак сербскі абаронца Даніэл Стойкавіч, які плённа далучыўся да адной з атак і годна згуляў галавой. Тое здарылася напачатку другога тайму, і ў гасцей была процьма часу, каб адыграцца. Аднак усе спробы мінчан аказаліся марнымі, а нёманскі правадыр Кавалевіч на прэс-канферэнцыі слушна заўважыў: «Мы гулялі лепш, і павінны былі выйграваць з больш буйным лікам».

Усё так, і «Нёман» працягвае сенсацыйна змагацца за медалі. Заходні горад усё больш заўзее футболам, прадчуваючы неспадзяваны рэнесанс тых часоў, калі Гродна стаяў у турнірнай табліцы высока і хадзіў гогалем.

Зрэшты, занадта спяваць асанну ў гонар пераможцаў таксама залішне. Па той простай прычыне, што ў прынцыпе невялікі гэта подзвіг — натаўчы ў карак сённяшняму сталічнаму «Дынама». Здаецца, нешта пайшло не так у трэнера мінчан Леаніда Кучука. Ён узначаліў «бела-блакітную» каманду, каб звыкла і грунтоўна яе перабудаваць. І напалову справа зроблена — абараняюцца дынамаўцы добра і надзейна. Аднак ля чужых варот у іх мала што атрымліваецца. Два забітыя галы ў апошніх пяці гульнях — гэта статыстыка для футбольных двоечнікаў. І нават дазаявачны перыяд не дапамог «Дынама» ўзмацніць склад, каб хоць якая-ніякая музыка загучала ў іх выкананні. Не, замест музыкі — панурая какафонія. Заўзятары абураюцца трэнерскай працай — і амаль што ўжо абвяшчаюць вырак: маўляў, чарговы ратаўнік клубнага імя не здольны выцягнуць бегемота з балота.

* * *

Эфект ад выйгрышу «Нёмана» павялічыў нечаканы канфуз БАТЭ. «Жоўта-сінія» наведалі Жодзіна, дзе нікому не бывае лёгка. Асабліва цяпер, калі пад кіраўніцтвам мацёрага Юрыя Пунтуса «Тарпеда» набрала зайздросную хаду і не на жарт разлічвае ўзяць медалі. Праўда, у нядзелю на пачатку гульні жодзінцы зрабілі ўсё, каб залагодзіць барысаўчан. Крыху больш за паўгадзіны адбегалі суперніку, а лік ужо быў 2:0 на карысць «жоўта-сініх» — галамі адзначыліся Максім Скавыш і Ігар Стасевіч. Можна замаўляць шампанскае? Не выключана, што некаторыя футбалісты БАТЭ так і падумалі. Пра што ў хуткім часе моцна пашкадавалі. Прайшло крыху часу, і не тое што шампанскае — позна стала піць баржомі.

«Тарпеда» феерычна перавярнула гульню. І зрабіла гэта так, што не скажаш, быццам дэкарацыі на газоне кардынальна змяніліся. Проста да перапынку жодзінцы паспелі забіць адзін раз, а пасля, цягам дзвюох хвілін, — яшчэ двойчы. Пры тым, што характар матчу ў цэлым застаўся плюс-мінус ранейшым. З той толькі розніцай, што БАТЭ занадта рана заспакоіўся.

У гэтым бяда колішняга флагмана. Майстэрства — вышэй за дах, досведу — хопіць на дзесяцёх, ёсць армія заўзятараў і надзейны фінансавы тыл. Здаецца, гуляй ды радуйся. Але ўжо які год запар Барысаў церпіць ад хібнай сваёй псіхалогіі. Ад празмернай ментальнай млосці, што ахінае каманду час ад часу, бывае, што падчас канкрэтнага матчу.

БАТЭ, як кату Леапольду, не хапае звычайнай злосці. Азарту і паскоранага сэрцабіцця. Калі з гэтым усё добра, каманда можа ўтаптаць у газон любога. Калі гэтага нестае, тварам у траве часцяком аказваюцца самі барысаўчане.

Крытыкі кажуць, што гэта застой. Жодзінскі трэнер Пунтус пасля гэтых касмічных 3:2 сказаў інакш: «Я — самы шчаслівы чалавек!» Зразумець паважанага спецыяліста няцяжка. Ён даў дыхту не проста фаварыту, а яшчэ і сваёй былой камандзе, якую ўзначальваў у 1990-я гады і ля вытокаў якой стаяў разам з Анатолем Капскім.

* * *

З іншых вынікаў мінулага тура трэба, зразумела, узгадаць пра перамогу «Шахцёра». Яе ён здабыў у Слуцку, і не вельмі замарыўся. Юрый Вернідуб нават абышоўся без паслуг Віталя Лісаковіча, які на той дзень і час заставаўся салігорскім гульцом.

Перамагло і брэсцкае «Дынама». З вялікімі цяжкасцямі, але ў яго становішчы інакш ніяк. Некалькі тыдняў клуб сядзеў на каранціне праз каронавірус, які падкраўся незаўважна. Натуральна, што фізічны стан каманды моцна пахіснуўся, і кандыцыі давядзецца набіраць яшчэ не адзін тур. Але на «Віцебск» сіл у берасцейцаў хапіла. Як хапіла і адзінага гола, каб пакласці ў кішэню тры балы. Дзякуй Міхаілу Гардзейчуку за трапны стрэл. Дзякуй астатнім гульцам, якія вытрывалі, сцяўшы зубы. Як падкрэсліў у прэс-цэнтры трэнер Сяргей Кавальчук: «Цяжка было гуляць, цяжка дыхаць. Шмат хто з хлопцаў пакуль не гатовы і на 70 працэнтаў».

Што ж, такі сёння час — пандэмія яшчэ нікуды не сышла, і не выключаная яе другая хваля. Аднак футбол працягваецца, і тэмпература ў ім цяпер расце ў першую чаргу ад гарачай барацьбы.

**Чэмпіянат Беларусі**

**ВЫНІКІ 20-га ТУРА:** 31.07. СЛУЦК — ШАХЦЁР (Салігорск) — 0:2 (А. Архіпаў, 20, з пенальці, Анціч, 62). ДЫНАМА (Брэст) — ВІЦЕБСК — 1:0 (Гардзейчук, 17). 1.08. СМАЛЯВІЧЫ — БЕЛШЫНА (Бабруйск) — 0:3 (Лявіцкі, 2, Ковель, 47, Лебедзеў, 65). СЛАВІЯ (Мазыр) — ІСЛАЧ (Мінскі раён) — 2:4 (Тэттэ, 45, Малькевіч, 51 — Макась, 17, 39, Януш, 53, 73). НЁМАН (Гродна) — ДЫНАМА (Мінск) — 1:0 (Стойкавіч, 50). 2.08. ТАРПЕДА-БЕЛАЗ — БАТЭ (Барысаў) — 3:2 (Хачатуран, 45, Рамас, 59, Анцілеўскі, 61 — Скавыш, 8, Стасевіч, 36). МІНСК — РУХ (Брэст) — 0:1 (Грачыха, 19). ГАРАДЗЕЯ — ЭНЕРГЕТЫК-БДУ (Мінск) — 1:1 (Сянкевіч, 63 — Соўпель, 67).

**21-шы ТУР.** 6.08. Белшына — Слуцк, Шахцёр — Дынама Бр. — матчы скончыліся пасля падпісання нумару ў друк. Віцебск — Іслач, Дынама Мн. — Смалявічы. 8.08. Мінск — Славія, Энергетык-БДУ — Нёман, Рух — Тарпеда-БелАЗ, БАТЭ — Гарадзея.

**ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА**

| | Г | П | Н | П | М | А | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Шахцёр | 20 | 11 | 7 | 2 | 35-9 | 40 |
| 2. | БАТЭ | 20 | 11 | 4 | 5 | 41-21 | 37 |
| 3. | Нёман | 19 | 11 | 4 | 4 | 24-13 | 37 |
| 4. | Тарпеда-БелАЗ | 20 | 9 | 6 | 5 | 28-23 | 33 |
| 5. | Дынама Мн. | 20 | 9 | 3 | 8 | 22-14 | 30 |
| 6. | Энергетык-БДУ | 20 | 9 | 3 | 8 | 27-30 | 30 |
| 7. | Дынама Бр. | 18 | 9 | 2 | 7 | 32-22 | 29 |
| 8. | Ісла ч | 20 | 9 | 2 | 9 | 26-27 | 29 |
| 9. | Віцебск | 20 | 7 | 8 | 5 | 20-19 | 29 |
| 10. | Рух | 20 | 7 | 8 | 5 | 27-20 | 29 |
| 11. | Славія | 19 | 6 | 5 | 8 | 26-36 | 23 |
| 12. | Слуцк | 19 | 6 | 3 | 10 | 21-31 | 21 |
| 13. | Гарадзея | 20 | 5 | 5 | 10 | 18-31 | 20 |
| 14. | Мінск | 18 | 5 | 3 | 10 | 19-36 | 18 |
| 15. | Смалявічы | 19 | 3 | 5 | 11 | 20-34 | 14 |
| 16. | Белшына | 20 | 3 | 4 | 13 | 18-38 | 13 |

# Еўракубкі: з кім будуць змагацца беларускія футбольныя клубы?

Сяргей КАЙКО

**У нядзелю і панядзелак позіркі беларускіх заўзятараў будуць скіраваныя на швейцарскі Ньён, дзе знаходзіцца штаб-кватэра Саюза еўрапейскіх футбольных асацыяцый. Там, на паўночным беразе Жэнеўскага возера, пройдзе жараб'ёўка стартавых раўндаў Лігі чэмпіёнаў і Лігі Еўропы.**

У абодвух прэстыжных турнірах традыцыйна ўдзельнічаюць і нашы клубы. І няма напрыканцы лета больш прыцягальнага футбольнага відовішча, чым гэтыя экзерсісы беларускіх хлопцаў на міжнароднай арэне.

У Лізе чэмпіёнаў згуляе брэсцкае «Дынама» — мацнейшы клуб краіны мінулага сезону. Гэта нешта новае, бо раней на працягу трынаццаці гадоў у ЛЧ Беларусь прадстаўляў барысаўскі БАТЭ. Але часы мяняюцца — змяніўся чэмпіён і ў нашым першынстве. І ўжо таму цікава будзе назіраць, як берасцейцы здолеюць дэбютаваць на гэтым узроўні.

Адразу скажам: будзе цяжка. Да жараб'ёўкі дынамаўцы падыходзяць у якасці неафітаў турніру, таму «балатавацца» будуць са слабейшага пула. Адпаведна, супернікі нашай камандзе гарантаваныя даволі моцныя, месцамі — магутныя. Зрэшты, вось спіс: «Сэлцік» (Шатландыя), «Астана» (Казахстан), «Лудагорац» (Балгарыя), «Црвена Звезда» (Сербія), «Карабах» (Азербайджан), «Легія» (Польшча), «Макабі» (Тэль-Авіў, Ізраіль), «Молдэ» (Нарвегія), «Шэрыф» (Малдова), «Ферэнцвараш» (Венгрыя), «Дандолк» (Ірландыя), «Слован» (Славакія), «Судува» (Літва), «Амонія» (Кіпр), «Клуж» (Румынія), «Сараева» (Боснія і Герцагавіна), «Дынама» (Тбілісі, Грузія).

У Лізе Еўропы будуць удзельнічаць тры беларускія клубы — БАТЭ, «Шахцёр» і мінскае «Дынама». Пры гэтым барысаўчане як носьбіты высокага індывідуальнага рэйтынгу першы кваліфікацыйны раунд прапусцяць — уключацца ў барацьбу адразу з другога. Супернікаў тут нашмат больш, чым у ЛЧ, таму ўсіх пералічваць не будзем. Адзначым толькі, што сярод іх на пачатковых стадыях ЛЕ ёсць як славутыя еўрапейскія мастадонты, так і вельмі дужыя серадняякі, і, канешне, сціплыя андэрдогі. Да першых прылічым італьянскі «Мілан», англійскі «Тотэнхэм», турэцкі «Галатасарай» ды, бадай, нямецкі «Вольфсбург». Да другіх — швейцарскі «Базэль», бельгійскі «Стандард», іспанскую «Гранаду», шатландскі «Рэйнджэрс», маскоўскае «Дынама», сербскі «Партызан», румынскую «Сцяуа» і не толькі. Да трэціх — мальтыйскую «Валету», «Вадуц» з Ліхтэнштэйна ці албанскі «Кукесі».

Якое месца сярод апанентаў наканавана заняць беларусам, пакажа час. Пра вынікі жараб'ёўкі і каляндар першых матчаў мы раскажам у наступным нумары.

# БагатаДата

**У гэтыя дні мы ўзгадваем важныя круглыя даты: смерць Тадэвуша Рэйтана, нараджэнне Ларысы Геніюш і гадавіну Крэўскай уніі. Што яшчэ было цікавага ў гісторыі? Чытайце ў традыцыйным аглядзе.**

### 8 жніўня

**Сусветныя дні афтальмалогіі, альпінізму і катоў.**

**1780.** У радавым маёнтку Грушаўка пад Ляхавічамі памёр Тадэвуш Рэйтан, пасол ад Навагрудскага ваяводства ВКЛ на Сойме Рэчы Паспалітай. Магіла яго не знойдзена. Быў сярод паслоў Сойма ў красавіку 1773 года, якія спрабавалі не дапусціць першага падзелу Рэчы Паспалітай. Падчас аднаго з пасяджэнняў ён лёг на выхадзе з залы з воклічам: «Тапчыце мяне, не тапчыце дзяржаву!». Цікава, што ў 1919–1921 гадах у цэнтры Мінска існавала вуліца Рэйтана (былая Юр'еўская).

### 9 жніўня

**Дзень будаўнікоў Беларусі** (адзначаецца традыцыйна ў другую нядзелю жніўня), а таксама **Міжнародны дзень карэнных народаў** і **Сусветны дзень кнігалюбаў.**

**1890.** У вёсцы Чамяры Слонімскага Павета Гродзенскай губерні нарадзіўся Максім Бурсевіч (псеўданім: Трыліснік). Арыштаваны польскімі ўладамі ў лютым 1927 года. На «працэсе 56-і» ў 1928-м прыгавораны да 8 гадоў турмы. У 1932-м у выніку абмену палітвязнямі трапіў у СССР, жыў у Мінску. Арыштаваны ДПУ БССР 21 жніўня 1933 па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». Прысуджаны 9 студзеня 1934 да расстрэлу, які быў заменены 10 гадамі зняволення. Пакаранне адбываў на Салаўках і на будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала. 9 кастрычніка 1937 прыгавораны да расстрэлу. Расстраляны на ст. Мядзведжая Гара (Сандармох) Карэла-Фінскай АССР. Рэабілітаваны па абодвух прысудах 16 жніўня 1956 года.

**1910.** У маёнтку Жлобаўцы Ваўкавыскага раёна на Гродзеншчыне нарадзілася паэтка і грамадская дзяячка Ларыса Геніюш. Падчас жыцця ў Празе ў 1930-х і 1940-х гадах займалася захаваннем і ўпарадкаваннем архіву Беларускай Народнай Рэспублікі. У Празе выйшаў і яе першы зборнік вершаў «Ад родных ніў». Узімку 1949 года Вярхоўны суд БССР прыгаварыў Ларысу Геніюш разам з мужам Янкам да 25 гадоў зняволення ў лагерах. Дапытваў паэтку сам міністр дзяржбяспекі БССР Лаўрэнцій Цанава, які хацеў здабыць архівы БНР. Пасля частковай рэабілітацыі і вызвалення Геніюш жыла ў Зэльве пад наглядам КДБ. Прынцыпова не прыняла савецкае грамадзянства, засталася з грамадзянствам Чэхаславакіі.



### 10 жніўня

**1905.** У расійскім Петраградзе нарадзілася беларуская акторка-балярына Ніна Младзінская. Была салісткай тэатраў у Ленінградзе, Свярдлоўску і цягам дзесяці гадоў — Мінскага тэатра оперы і балета. Затым выкладала ў Мінскай балетнай вучэльні.

**1920.** У Мінску пачала дзейнічаць тэатральная трупа Уладзіслава Галубка — пастаноўкай камедыі «Суд» паводле сцэнару заснавальніка трупы. Затым яна ператварылася ў Беларускі дзяржаўны вандроўны тэатр, а пазней — у Беларускі трэці дзяржаўны тэатр (БДТ-3).




### 11 жніўня

Каталіцкі касцёл адзначае ўспамін святой Клары, заступніцы швачак, радыё і тэлебачання.

### 12 жніўня

**Міжнародны дзень моладзі.**

**1935.** У расійскім горадзе Арзамас нарадзіўся беларускі дзяржаўны дзеяч Юрый Пуплікаў, старшыня Дзяржаўных камітэтаў БССР і Рэспублікі Беларусь па справах будаўніцтва пры канцы 1980-х — у пачатку 1990-х гадоў. Пад яго кіраўніцтвам у сярэдзіне 1980-х гадоў дабудоўвалася перад запускам першая лінія мінскага метро.

### 13 жніўня

**Міжнародны дзень ляўшуноў.**

**1950.** У горадзе Смалявічы на Міншчыне нарадзіўся палітык, дыпламат Пётр Краўчанка. Дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га і 13-га скліканняў. Міністр замежных спраў БССР, а затым і незалежнай Беларусі. Пасол Беларусі ў Японіі і на Філіпінах.

**1950.** У горадзе Іашкар-Ала Марыйская АССР нарадзілася беларускі мастацтвазнаўца, арт-крытык, галерыст, куратар выставак сучаснага мастацтва, экспадызайнер Ларыса Фінкельштэйн.

**1990.** Прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў падпісаў указ «Аб аднаўленні правоў усіх ахвяраў палітычных рэпрэсій 1920–1950-х гадоў». У тым ліку ў нашай краіне пачалася рэабілітацыя рэпрэсаваных.

### 14 жніўня

**1385.** Была заключана Крэўская ўнія паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Каралеўствам Польскім (у горадзе Крэва Смаргонскага раёна на Міншчыне). Гэта была дамова аб дынастычным саюзе праз шлюб вялікага князя Ягайлы і каралевы Ядвігі.

**1925.** У вёсцы Пагост Салігорскага раёна Мінскай вобласці нарадзіўся мастак Віктар Пратасеня. У 1970-х гадах быў старшынёй праўлення Беларускага саюза мастакоў.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**



Фота www.author.today



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1308

Падпісана да друку 06.08.2020. 8.00.
Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.